PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 29 (2097) Год XLI Беласток 21 ліпеня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

## Можа ў будучыні нешта выйдзе

**З войтам Нарваўскай гміны ЯНАМ ІВАНЮКОМ гутарыць Аляксандр Вярбіцкі**

***— На што расходуецца гмінны бюджэт?***

— У гэтым годзе мы галоўным чынам наставіліся на рамонт дарог. Не зладзілася, на жаль, будова водаправодаў з увагі на высокія кошты — каля 20 мільёнаў ад жыхара. У мінулым годзе каштавала гэта 8,7 мільёна і мы працягнулі каля дзесяці кіламетраў водаправода на адрэзку Гарадзіска—Прыбудкі—Падбаравіска—Крывец. Цяперашні кошт знеахвочвае людзей. Прабавалі мы намаўляць жыхароў Гародчына і Сацоў, вядзем размовы ў Трасцянцы.

***— Чым выкліканы такі рэзкі рост коштаў?***

— Вёскі гэты аддаленыя ды і цэны матэрыялаў пайшлі ўгору. Мы ў сваю чаргу не можам паменшыць гэтых коштаў шляхам даплаты з нашага бюджэту і абысці прынцыпу, паводле якога жыхары мусяць унесці акрэсленую сваю долю — найменш 25%, — бо не маглі б тады атрымаць дафінансавання з Агенцтва рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі. А мы самі ў сваю чаргу не зможам з гэтым справіцца. Агенцтва даплачвае 30% і нам тады астаецца толькі 45%, з якіх, бывае, часткова выручае нас Ваяводская ўправа, якая са сваіх фондаў дзеліць даплату на тыя гміны, якія будуюць водаправоды. У мінулым годзе мы атрымалі паўтара мільярда з Агенцтва і 400 мільёнаў з ваяводства.

***— То ў гэтым годзе ваша гміна нічога не дастане з гэтых грошай?***

— Гэта страта, але і мы не выдаем уласных сродкаў і такім чынам маем іх на другія мэты.

***— Якія мясцовасці маюць ужо ваду?***

— Нарва, Макаўка, Храбустоўка, Кутавая, Ласінка, Гарадзіска, Прыбудкі, Падбаравіска, Ваські, Крывец, Істок, Даратынка, Тыневічы Малыя і Вялікія — 34% вёсак.



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

***— Цяпер пра дарогі.***

— Згодна з планамі і рашэннем Гміннай рады пачалі мадэрнізацыю вуліц у Нарве, на *аседлю*. Кладзем асфальтную эмульсію, бо гэта адна з таннейшых тэхналогій, калі расходзіцца пра бітумічнае пакрыццё. Яшчэ асфальтуем вуліцы Дамброўскага, Кавальскую і Панятоўскага ў Нарве ды вуліцу ў Васьках, а калі хопіць сродкаў, то змадэрнізуем і частку вуліцы ў Тыневічах-Вяліких. Яшчэ маем абяцаную з ваяводства датацыю 200 мільёнаў на аплату 75% коштаў рамонту гмінных дарог, якія не маюць цвёрдага пакрыцця, і каб тых грошай не страціць, разглядаемся, якія дарогі рамантаваць; хопіць гэтага на 4 кіламетры.

***— Можа дарогу ў Граматнае?***

— Гэта дарога зроблена.

***— Але не да канца. Каля самога Граматнага выбоіны...***

— Мы яшчэ там два шлюзы плануем зрабіць; гэта наша галоўная дарога на „Семяноўку”, рух на ёй павялічыўся і будзем сачыць за ёю больш.

***— А вуліца ў Крыўцы; гонару яна не прыносіць...***

— У будучым годзе; толькі што зра-

*(працяг на стар. 4)*

## Сход Саюза

8 ліпеня г.г. адбыўся ў Беластоку сход Беларускага саюза. Парадак сустрэчы прадугледжваў тры пытанні: прапанову беларусаў з ЗША правесці з'езд беларусаў свету на Беласточчыне, справу беластоцкага асяродка тэлебачання і беларускія перадачы ў ім ды будучыя выбары ў парламент.

У справе з'езда беларусаў свету прысутныя пагадзіліся, што немагчыма мерапрыемства такое правесці без падтрымкі (і легітымацыі) з боку Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына”. Статут „Бацькаўшчыны” прадугледжвае магчымасць правядзення з'езда па-за межамі Беларусі. Калі дапусціць такую магчымасць, дык, паводле неафіцыйных вестак, разглядаюцца тры месцы правядзення гэтага зборышча: Беласток, Вільня і нейкая мясціна на Украіне.

Пры дапамозе Вітаўта Кіпеля з Нью-Йорка, паведаміў на сходзе Юрка Каліна, удалося сабраць і пераслаць на Беласточчыну ўсё, што выходзіла друкам на эміграцыі. Паводле Ю. Каліны збор гэты павінен стацца зачаткам бібліятэкі Беларускага саюза. Самым складаным пытаннем з'яўляецца тут памяшканне дзеля гэтай мэты, а ў сувязі з ім прысутныя згадзіліся, што трэба правесці дэталёвую рэгістрацыю матэрыялаў і перадаць іх у часовы схоў у нейкую існуючую бібліятэку.

Вялікая вайна за кіраўніцтва ў тэлебачанні, паведаміў старшыня Саюза Яўген Вапа, запаволіла ажыццяўленне беларускага пытання ў рамках беластоцкага рэгіянальнага асяродка. Страшнае і тое, што ў гэтых ваенных дзеяннях загубіліся 10 тысяч подпісаў сабраных Беларускім саюзам у падтрымку беларускім перадачам. Суцяшальнае аднак тое, што подпісы неяк знайшліся.

Выбары ў парламент былі тым пунктам сустрэчы, які ўсхваляваў усіх членаў Саюза. Ёсць адчуванне (але гэта слаба сказана), што змена элітаў, якая адбываецца пакуль у вярхах, зыдзе ўніз. Незалежная беларуская дзейнасць прызначаная ў гэтым плане на знішчэнне.

(ам)

Яўген МІРАНОВІЧ

## Вызваленне

Калі ў верасні 1939 года на Беласточчыне ўпершыню з'явіліся нямецкія вайсковыя фарміраванні, беларускія сяляне не маглі зразумець, у які спосаб у франтавікоў захоўваюцца такая чыстая вопратка, бліскучыя боты і пабрытыя твары. Там, дзе тады затрымаліся нямецкія роты, сяляне маглі пачуць ад афіцэраў незразумелыя лозунгі: „рус брат, рус брат”. Салдаты частавалі густым гарохавым супам, густа заскваранымі вараным мясам. Некаторым дзецям пашанцавала нават спазнаць смак шакаладу. Немцы мыліся вечарам, а пасля гэты рытуал паўтаралі раніцай. Мыліся халоднай вадой на панадворках гаспадароў, у якіх начавалі. Пахла ад іх духамі. Праз некалькі дзён з'явіліся тут абарваныя чырвонаармейцы. За імі прыйшлі камісары і энкавэдзісты. Усяляк людзі гавораць пра тую савецкую ўладу, але ва ўспамінах паўтараецца вобраз гаспадарчага абсурду, незразумелых распараджэнняў, барацьбы з кулацтвам, беспадстаўных абвінавачванняў. Праз два гады зноў былі тут немцы, але паводзілі сябе зусім інакш, чым у 1939 г. За Вермахтам прыйшлі забойцы ва ўніформах. Магілы і спаленыя вёскі асталіся трывалым следам іх прысутнасці.

Каля 20 ліпеня 1944 г. зноў на Беласточчыну прыйшла нямецкая армія. І зноў тутэйшых жыхароў здзівіў вобраз немцаў. Салдаты гэтым разам былі брудныя, зарослыя, а падчас адпачынку наперамену курылі, лавілі вошай і іншых насякомых, што поўзалі паміж салдацкім целам і ўніформай. Не ўсміхаліся да людзей так, як у 1939 г., а з вадой мелі кантакт толькі тады, калі хацелелася ім піць.

Паміж Падваркамі і Заблудавам месца ў акопах заняў батальён рускамоўных салдат у нямецкіх уніформах. Некаторыя немцы, ведаючы звычаі гэтых жаўнераў, раілі мясцовым жанчынам не паказвацца ім на вочы.

Фронт прайшоў надзвычай хутка. Толькі ноччу з 25 на 26 ліпеня — успамінаюць жыхары адлеглай на 20 кіламетраў ад Беластока вёскі Алексічы — неба над горадам раз'яснялі зенітныя снарады. Раніцай усё прыціхла. Людзі пачыналі з лясоў выганяць жывёлу і вяртацца ў вёскі, дзе былі ўжо савецкія салдаты. У некаторых дамах арганізаваліся часовыя лазарэты, у якія зносілі параненых жаўнераў. Саветы ў некаторых вёсках затрымаліся на пару гадзін, у іншых на некалькі дзён. Салдаты не дакучалі сялянам, у некаторых вёсках забралі толькі пару коней, якіх не паспелі рэквізаваць немцы, пару свіней ды кароў на патрэбы вайсковай кухні. Касавокія радавыя байцы хадзілі па хатах і ветліва прасі-

*(працяг на стар. 4)*

# Мы прачыталі

*Koreańska telewizja pokazała nieszczęsnych, którym pękł żołądek, bo jedli trzy razy dziennie. Z przejęciem opowiadają opiekunowie dzieciom, jak to dobrze jeść dwa razy dziennie, jak uczy partia. W 1994 r. zmarł nagle na atak serca Kim Ir Sen. Dzieci uczyły się w szkole, że to dzięki niemu wschodzi słońce. Wychowaniem dzieci od urodzenia zajmuje się państwo. Przedszkolaki o 6 rano idą czwórkami do pracy: pielą trawę na chodnikach. O 8. zaczynają się zajęcia w szkole. Po szkole — wiec. Kobiety w Korei grają ważną rolę jako jedno z dwóch kół rewolucyjnego rydwanu, związek między kobietą i mężczyzną to związek dwojga towarzyszy oparty na rewolucyjnej miłości. O życiu dziecka decyduje państwo. Po skończeniu szkoły średniej jednych wyznacza się do wojska, innych na studia. Robotnik koreański pracuje 52 godziny tygodniowo. Zakłady w całej Korei biorą udział w bitwach o pracę. Przodownicy są bohaterami. W pracy otrzymuje się bilety do kin, bilet na pociąg, talon do fryzjera. Co jakiś czas — buty i ubranie. Raz na miesiąc — przydział ryżu. Władza wszystko co potrzebne człowiekowi po prostu daje.*

*Gazeta—Magazyn, nr 25*

Карэйскія таварышы ўжо амаль канчаюць пабудову сацыялістычнага ладу ў сваёй краіне. У гэтай галіне значна абагналі „белорусов”, а нават кубінцаў і кітайцаў. Віншуем карэйскіх таварышаў!

* * *

*Na Białorusi mielą podręczniki szkolne wydrukowane po uzyskaniu przez Białoruś niepodległości, a uznane przez władze za „nacjonalistyczne”: m.in. białoruski elementarz i „Historię Białorusi”. W sierpniu powołana przez Łukaszenkę komisja uznała, że książki godzą w stosunki z Rosją.*

*Gazeta Wyborcza, nr 150*

Буквар і „Гісторыя Беларусі” надта ж напамінаюць пра існаванне беларускай культурнай і духоўнай спадчыны. Раней таксама ніводзін акупант гэтага не пераносіў.

* * *

*Група прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі занепакоена зместам шэрагу энцыклапедычных выданняў („Энцыклапедыя гісторыі Беларусі”, „Энцыклапедычны даведнік — Беларусь”), якія выйшлі ў свет у апошнія гады, звярнуліся да Прэзідэнта Беларусі з адкрытым лістом. Яны лічаць, што гэтыя матэрыялы тэндэнцыйныя, палітызаваныя, скажаюць гістарычную праўду, прасякнутыя русафобіяй, што не садзейнічае супольнасці Беларусі і Расіі. Аўтары ліста патрабуюць перадаць выдавецтва „Беларускай Энцыклапедыі” ў адміністрацыю Прэзідэнта. Рэдакцыйная калегія павінна прызначацца ўказам Прэзідэнта.*

*Голас Радзімы, н-р 26*

Вельмі слушныя прапановы. Ужо загалоўкі ўспомненых выданняў парушаюць сяброўскія адносіны з Расіяй.

* * *

*За дружбу народаў у Мінску б'юць да крыві.*

*Наша слова, н-р 24*

Гэтым разам амонаўцы трапалі ўкраінцаў, дэманструючых салідарнасць з беларусамі.

* * *

*Прэзідэнт Лукашэнка падпісаў распараджэнне аб павышэнні на 100% заработнай платы байцам амона.*

*Свабода, н-р 45*

* * *

*Лукашэнка паведаміў аб сваім жаданні „параіцца з народам”. Самы эфектыўны сродак маніпуляцыі масавай свядомасцю — гэта рэферэндум. Вядома ж, для ўсенароднага галасавання будуць абраныя толькі такія пытанні, якія гарантуюць выканаўчай уладзе падтрымку большасці. Лукашэнка ўжо заявіў, што жадае параіцца з народам па наступных праблемах: патрэбы існавання органаў мясцовай улады — лакальных саветаў, справа прыватнай уласнасці зямлі, пашырэння НАТО на Усход, зменаў у Канстытуцыі.*

*Самым цынічным, вядома ж стане пытанне аб пашырэні НАТО. З гэткім жа поспехам можам даведацца меркавання беларускага народа наконт аб'яднання Сенегала і Замбіі. Вынікі галасавання будуць мець рэальнае значэнне толькі для Генеральнага штаба расійскай арміі.*

*Свабода, н-р 46*

* * *

*W polskich partiach politycznych, zajętych wewnętrznymi rozgrywkami, nurt proeuropejski zaczyna słabnąć. A coraz silniejsze ugrupowania narodowo-związkowo-chłopskie, błogosławione przez Kościół, zaczynają otwarcie wyrażać antyeuropejskie animozje. Polsko-narodowy zaścianek, pełen obskuranckiej fanfaronady, niezbyt dobrze wpisuje się do struktur euroatlantyckich.*

*Polityka, nr 27*

Цікава, ці ў Польшчы назначаць рэферэндум па справах еўрапеізацыі краіны.

* * *

*Państwo stać by było na realizowanie zobowiązań wobec nauki, oświaty i służby zdrowia, gdyby gwałtownie zredukowano wydatki na deficytowe państwowe mamuty gospodarcze, w tym niektóre banki. To jednak groziłoby perturbacjami społecznymi, a więc spokój kupuje się za pieniądze podatnika. W końcu uczelnie nie dają takiej liczby głosów w wyborach, jak ośrodki tzw. wielkoprzemysłowej klasy robotniczej. Jeżeli ktokolwiek spośród polskich naukowców, nauczycieli, lekarzy liczy, że lewicowa koalicja rozwiąże ich problemy finansowe jest w błędzie. Profesor i robotnik mają tylko jeden głos w wyborach, a każdy wie, że profesorów jest mniej niż robotników.*

*Wprost, nr 27*

# З мінулага тыдня

**У Кельцах** ва ўрачыстасці 50-годдзя яўрэйскага пагрому ўдзельнічала каля трох тысяч асоб, у тым ліку некалькі соцень яўрэяў са Злучаных Штатаў Амерыкі і Ізраіля. Ля каманіцы пры вул. Плянты, дзе 4 ліпеня 1946 г. загінулі 42 яўрэі, прэм'ер-міністр **Уладзімеж Цімашэвіч** сказаў: „Польшча стагоддзямі бывала для яўрэяў маці. Сённяшняя трагічная гадавіна напамінае, што Польшча бывала для яўрэяў і мачахай. (...) Глыбока шкадуючы з прычыны ўсяго, у чым калі-небудзь палякі былі вінаватыя перад яўрэямі і шчыра просячы за гэта прабачэння, мы бачым патрэбу далейшага супрацоўніцтва дзеля сапраўднага польска-яўрэйскага прымірэння і дружбы”.

**Кантрольныя палаты Польшчы і Беларусі** завяршылі супольны кантроль усіх галін гаспадарання на тэрыторыі Белавежскай пушчы і цяперашніх спосабаў яе аховы па адобвух баках дзяржаўнай мяжы. Польскія і беларускія спецыялісты тры месяцы праводзілі праверку ўсіх пушчанскіх устаноў і столькі ж часу падводзілі вынікі і распрацоўвалі ўказанні. Старшыня Беларускай кантрольнай палаты **Васіль Саковіч** падкрэсліў, што беларускія кантралёры многаму навучыліся ў польскіх калег, асабліва ў галіне кантролю за ходам прыватызацыі. Супольны пратакол абодва бакі падпісалі ў Белавежы.

**Урадавы рапарт аб сітуацыі сем'яў** разглядаўся нядаўна Сеймам. Упаўнаважаная ўрада па справах сем'яў і жанчын **Іаланта Банах** сцвердзіла, што перыяд трансфармацыі прынёс новыя абумоўленасці, якія трывожна ўспрымаюцца грамадствам. З прыведзеных даных вынікае, што 50% сем'яў жыве ў сферы нізкіх даходаў, а 20% — ніжэй мяжы ўбоства (г.зн. калі даход на душу не дасягае ўзроўню самай нізкай пенсіі).

**Міністр аховы асяроддзя** падпісаў з гмінамі **Белавежа і Нараўка** пагадненне наконт павелічэння Белавежскага нацыянальнага парку. Дакумент гарантуе міністэрскую падтрымку для стараннуяў гмін атрымаць выгадныя крэдыты на экалагічныя інвестыцыі.

**Акруговы музей у Беластоку** папоўніў сваю калекцыю 187 іконамі і 6 крыжамі, адабранымі ў кантрабандыстаў мытнікамі Кантрольна-прапускнога пункта ў Кузніцы-Беластоцкай. Зарэквізаваныя іконы складаюць дзве траціны ўсёй калекцыі беластоцкага музея.

**Інкубатар прадпрымальнасці** паўстане ў Гайнаўцы. Фонд развіцця Беластоцкага ваяводства і ўлады Гайнаўкі падпісалі адпаведнае пагадненне. Зараз для гэтай мэты вядзецца адаптацыя будынкаў пры вул. Горнай.

**У Мельніку** на польска-беларускай мяжы пачала працу новая пагранічная застава Падляшскага аддзела Гранічнай аховы. Застава змяшчаецца ў будынку колішняй ветэрынарнай лячэбніцы. Адаптаваны аб'ект атрымаў сучаснае радыётэхнічнае абсталяванне, якое дапамагае паспяхова ахоўваць мяжу. На паўночна-ўсходняй мяжы паўстануць чарговыя заставы.

**Станіслаў Куявяк** выбраны войтам гміны Белавежа. Яму 50 гадоў. Закончыў ён лясную ВНУ ў Познані. У 1978—1990 гадах быў дырэктарам Белавежскага нацыянальнага парку, а пасля працаваў дырэктарам мясцовага дома культуры. Галоўнай задачай новы войт палічыў завяршэнне пабудовы каналізацыі і ачышчальні сцёкаў, добраўпарадкаванне звалкі і газіфікацыю. Намеснікам войта стаў **Раман Буквін**.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Ці беларусы стваралі народную ўладу на Беласточчыне?**
- **Народны фэст у Ласінцы.**
- **Дэмаграфічныя перспектывы гмін усходняй Беласточчыны.**

# Весткі з Беларусі

**Па прыкладзе Украіны**

Памочнік прэзідэнта Беларусі Сяргей Посахаў прызнаў, што Беларусь прыпыніла вывад са сваёй тэрыторыі ў Расею ядзерных ракет стратэгічнага прызначэння. На прэс-канферэнцыі ён адзначыў, што беларускі бок пайшоў на гэты крок, паколькі Расея павінна заплаціць рэспубліцы за ядзернае паліва, якое ёсць у васемнаццаці ракетах, што засталіся на тэрыторыі Беларусі. Посахаў даў зразумець, што ідэя заплаты за паліва ўзнікла пасля таго, як аналагічнай заплаты ўдалося дабіцца Украіне. Падчас кансультацыі з Расеяй была дасягнута дамоўленасць, што Масква выплаціць неабходную суму і тады графік вываду будзе выкананы.

**Надзея ў прэзідэнце**

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі плануе арганізаваць сустрэчу прадстаўнікоў працоўных калектываў рэспублікі з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Такая неабходнасць выклікана крытычнай сітуацыяй у прамысловасці. У апошнія дні чарговая хваля стыхійных выступленняў пракацілася па шэрагу прадпрыемстваў краіны. Рабочыя патрабуюць зарплату.

**Гонар спецназа**

Беларускія ўнутраныя войскі папоўніліся чатырнаццацю кракавымі берэтамі — элітай атрада спецыяльнага прызначэння. На працягу двух дзён салдаты, прапаршчыкі і афіцэры брыгады аператыўнага прызначэння ўнутраных войскаў і міліцэйскай брыгады змагаліся за права насіць гэты галаўны ўбор, паказваючы цуды сілы і трываласці. Паводле слоў старшыні Савета кракавых берэтаў Дзмітрыя Паўлючэнкі, гэтыя хлопцы стануць гонарам спецназа. Асноўная частка кракавых берэтаў будзе служыць у брыгадзе аператыўнага прызначэння.

**Платная аўтастрада**

Дзеля павелічэння паступлення сродкаў на мадэрнізацю, рамонт і ўтрыманне аўтамабільнай дарогі Брэст — Менск — граніца Расейскай Федэрацыі, гарантавання бяспекі руху па ёй і развіцця сервісных паслуг Кабінет Міністраў пастанавіў увесці з 1 лістапада 1996 г. плату за праезд транспартных сродкаў па гэтай аўтастрадзе. Часова вызвалены тэрмінам на два гады ад аплаты айчынныя ўладальнікі і карыстальнікі машын і гуманітарныя грузы.

**Беларускі кнігазбор**

Культурна-асветніцкае аб'яднанне «Міжнародны фонд „Беларускі кнігазбор”», створаны Беларускім саюзам пісьменнікаў і Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук, рыхтуе да друку шматтомнае выданне залатой бібліятэкі Беларусі — усяго самага значнага, што было створана на беларускай зямлі за тысячу гадоў. Кнігі будуць выходзіць у адзіным серыйным афармленні і пад агульнай назвай „Беларускі кнігазбор”.

**Купальскі альбом**

У Менску адбылася прэм'ера музычнага альбома „Купальскі маладзік” аўтарскай студыі „Няміга”. Яго аўтары — Васіль Сянько, Вялянціна Аколава і Васіль Буйніцкі. У выкананні беларускіх артыстаў прагучалі песні на тэму старажытнага горада, беларускага Купалля і кахання.

**Кабельнае ТБ**

З наступнага месяца жыхары менскіх мікрараёнаў Малінаўка і Паўднёвы Захад пры жаданні змогуць прымаць на свае тэлевізійныя прыёмнікі шаснаццаць каналаў. Усе яны будуць падзелены на два пакеты. У першы ўвойдуць усім вядомыя ГРТ, Канал Расея і БТ, а таксама асобна некалькі невядомых пакуль беларускім гледачам расейскіх праграм і дадаткова музычны французскі канал. У другі пакет увойдуць: дзіцячы канал з мульцікамі, канал класічных замежных фільмаў, канал навін CNN, магчыма канал Еўраспорт і іншыя. Некаторыя з іх будуць выходзіць на рускай мове або з перакладам, некаторыя — на замежнай. Мяркуецца, што кошт прыёму ўсіх шаснаццаці каналаў складзе 18 долараў у месяц.

**Поспехі плыўцоў**

З польскага горада Сопата, дзе праходзіў II этап кубка Еўропы па падводнаму плаванню на марафонскія дыстанцыі, вярнулася зборная Беларусі. Пераможцай сярод ветэранаў на дыстанцыі 2 км стала Ірына Дзеранчук — галоўны трэнер зборнай Беларусі, у мінулым чэмпіёнка свету па падводнаму плаванню. Мянчанін Андрэй Ханкевіч заняў чацвёртае месца. Чацвёртай была і зборная Беларусі ў эстафеце 4 па 100 м плавання ў ластах.

# Саша забіў Васю

Сава-павіўка на жыццё па заплоцціях гукае, цешыцца, і ўсе рады яе візіту ў вёсцы: „павіў-павіў" абвяшчае. А на смерць сумна кліча: „гу-гу, гугу, гу-гу". У такой вялікай вёсцы як Н., дзякуй Богу, павіўка частавата паведамляе аб нараджэнні дзіцятка. Але не менш часта пуглівым голасам наводзіць сум на людзей: вось наступнага павядуць на клады, запіўся насмерць, памёр ад старасці, забыты дзецьмі, вось адзін аднаго забіў па п'янцы...

Было гэта ў мінулагоднюю капанне. Саша Верабей з вёскі С., як заўсёды, наймаўся ў знаёмых да работы. Сам меў пастаянны занятак у лесе. Найчасцей за дзень працы, па звычаю, частавалі гарэлкай, выпівалі разам. Сям'і Базылюкоў, суседзям з З. цераз поле ды лясок, Саша часта дапамагаў. Сярод іх быў Вася, яго амаль аднагодак, адзін з лепшых Сашавых сяброў. Чужому скажаш: заплаці, а ў знаёмых нейк няёмка дамагацца — усё ж разам пасля тую пляшку п'юць. Летась Сашава жонка, Таіска, што з двума дзеткамі жыве ў Беластоку, прыбегла падвечар у сенакос: чаго вы бацьку дзецям забіраеце, валачэ вам капіцы, хоць каб дзецям які грош прынёс!

У гэты раз два дні меў капаць за „днёўку". Колькі Вася меў заплаціць Сашу? Быццам па 45 злотаў за кожны дзень. Так кажуць суседзі, так сведкі гаварылі ў судзе, хоць папраўдзе жывых сведкаў няма. Ці гэта важна, колькі нябожчык меў заплаціць свайму забойцу? Вось за тое Вася аддаў жыццё, што тых днёвак не выплаціў.

Адзінага сведка таго здарэння няма ўжо ў жывых. Гэта Васеў бацька, Максім. Вось два тыдні таму бачылі яго на ровары, як ехаў цераз Н., гаварыў з людзьмі. Кляўся ў помсце. Сэрца яму *пэнкла*, кажуць вяскоўцы. Пахаваў быў Максім спачатку аднаго сына — знайшлі яго мёртвага ў лесе, другі — кажуць, сам павесіўся, а вось трэцяму сябра сцізорыкам прабіў бок, і ад такой маленечкай, вузенькай раны той кончыўся. Максім у З. прыйшоў у прымы, Зося мела добрую гаспадарку па бацьках. Пасля смерці двух сыноў, гора ж такое, падупала на здароўі, папраўдзе, сама яго сабе зруйнавала, боль свой гарэлкай спаліць хацела. Васю тую гаспадарку пакінула. Шкада, што Вася жонкі сабе не знайшоў, добра, хоць адзін сын добра жыве, і дачка адна ў С. замуж пайшла... І сваю Зосю Максім пару гадоў як пахаваў.

— Ой, Вася такі добры, вясёлы хлопец быў. Ужо яму за сорак было. Мілы, пачцівы, заўсёды з усмешкай. Гускі не скрыўдзіў бы, не то што чалавека! — успамінаюць жанчыны з Н.

— Памятаю, на Дзень жанчын зайшоў у нашу краму, усім кабетам купіў па *чыкалядзе*, такі ветлівы, прыемны чалавек.

— Што папіваў, то праўда. Але калі нават выпіўшы, то такі лагодны, спакойны, толькі тая ўсмешка на губах.

— Выклаў панелямі тую хатку, што з бацькам жыў, там у канцы вёскі, каля братавай муравanкі. Усё вымадзіў так прыгожа. Пытаюся, чаго так хату рыхтуе, а Вася смяецца: „Жаніцца надумаўся..."

Саша Верабей не піў менш ці больш за Васю Базылюка, але слава аб ім, кажуць, заўсёды хадзіла ненайлепшая. А цяпер яго ўсе бачаць у найбольш жахлівых колерах.

— Вой, то ж ён свайго бацьку патэльняй забіў!..

— Наколькі я ведаю, у Антона Вераб'я быў рак.

— Усё можна напісаць. Мы добра ведаем. Так Антона пабіў патэльняю, што ў галаве рак зрабіўся. За маткай, калі што яму не падабалася, то талеркамі па кухні кідаў. А цешчу то ў Беластоку даканаў, паехаў, задушыў!

— Я бачыла лекарскае пасведчанне, што ў Марыі Міхалоўскай быў рак тоўстай кішкі.

— Ці ж вы не ведаеце, што ўсё можна напісаць? Ён цяпер нават дурня можа з сябе зрабіць. Калісь у лесе бервяно яму галаву пабіла, меў аперацыю. Пашлюць у Харошчу, заглянуць у чэрап, што калісь рэзалі, і напішуць, што варыят. Варыятаў у турму не саджаюць жа ж.

— Ага, цяпер то ўсе дурняў з сябе робяць, калі ў войска трэба ці куды.

— Мы Сашу Вераб'я ўсе баімося. Такі нават на выгляд ваўкаваты. Уся сям'я такая, паміж сабою за зямлю судзяцца, перасудзіцца не могуць. Во гэты кавалак іхні, не могуць дайсці да згоды, то загон чартапалохам зарастае...

Як было ў сапраўднасці? Нават у судзе маюць з гэтым праблему. Адно вядома: Васіль Базылюк не жыве, а параніў яго Аляксандр Верабей. У той асенні позні вечар ліў дождж. Пасля капання мужыкі пасядалі ў пакоі Максіма Базылюка, выпіць ды закусіць. Стары ляжаў на ложку, нездаровілася яму. Калі Саша сказаў Васю заплаціць яму „днёўкі", бо заўтра збіраецца ў Беласток да дзяцей, Вася адказаў, што заплаціць заўтра — меў толькі два мільёны ў адным банкноце. Ноччу ж грошай не памяняеш. Мусіла быць між імі валтузня, але нават бацька (адзін сусед быў настолькі п'яны, што нічога не памятае — выпіў бадай сам паўлітра, паводле яго рахункаў) не заўважыў таго моманту. Максім убачыў толькі далонь сына, якою ён чагосьці нервова шукаў ля сваіх нагавіц. Стары думаў, што, мабыць, папярос шукае ці запалак у кішэні. Пасля спаміж Васевых пальцаў пацяклі стружкі крыві. Бялеў з секунды на секунду. Саша збег у лес, хаваўся два дні. Паліцыя знайшла Вераб'я ў ягонай хаце ў С. ноччу, спаў. Аддаўся ў рукі ахоўнікаў парадку амаль без слова, запытаўся толькі: „Ці жыве?"

У гэтай ваколіцы спрэчкі вырашаюцца часта з дапамогай нажа. Б'юць найчасцей у ніз жывата, сцізорыкам. Самога Вераб'я нядаўна так параніў п'яны сусед, не хапала міліметраў, і скончыў бы ён так, як і Базылюк. Вядома, найбольш вінавата ў гэтым гарэлка. Калісьці алкаголь лічыўся судом як момант, які мог апраўдаць злачыннае дзеянне. Цяпер злачынца, які парушыў закон пад уплывам алкаголю, караецца яшчэ больш строга. А п'яны чалавек гэта іншы чалавек, чым цвярозы. Невядома, чаго ад яго чакаць. „Гарэлка цераз яго прамаўляе". І невядома, ці хтосьці зусім звычайны, быццам спакойны, няшкодны чалавек, сусед вядомы здаўна, не прыврадзе цябе ў біду. Чалавек жа не нараджаецца забойцам...

— Максім абяцаў помсту. Не дажыў. Вось які лёс у Базылюкоў, Божа ж мой, Божа, — ківае галавою сівая бабулька на лавачцы ў Н., — У прароцтвах усё апісана: будуць перад канцом свету войны, моры, землятрусы, падыме руку брат на брата... А праўда ў нас вось слабое, замала, заслаба караюць. Але ёсць яшчэ Бог.

— Бог не Бог, але хай той Верабей у нас тут паявіцца! Можа сустрэць яго тое ж! І хай тады вінаваты шукаюць! А такіх, што тут ходзяць і спісваюць, туды ж адправіць, цьфу! — крычыць Васева суседка, выразна „п'е" да мяне.

— А ці я яго апраўдваю? — пытаюся, і нейкі холад прабягае мне па спіне.

— А што, не? Калі кажу, што цешчу задушыў, то можа няпраўда, не мог такога зрабіць?!

— А як яго малы Севастыян? — пытаецца жанчына ў краме.

— Меў цяжкую аперацыю на сэрцы. Удалася.

— От, каб была не ўдалася, то была б справядлівасць на свеце.

Найбольш Васі шкада. Добры чалавек быў, нічога кепскага нікому не зрабіў. Ці то лёсу Бог яму не даў, ці ён сам не сумеў яго знайсці? А можа гэта нейкі фатум над сям'ёй? Можа якісьці продак страшны які грэх учыніў, і праклён пайшоў на пакаленні?.. Людзі думаюць, шкадуюць.

А ў Н., З. і С. ды суседніх вёсках найбольш цяпер папулярны кактэйль — *dzinatura and Coca-Cola.*

**Міра Лукша**

*PS. Імёны і прозвішчы персанажаў зменены.*

# Звон на трывогу!

Пачаўся час летніх канікул. Усе дзецюкі ды падлеткі апынуліся ў хатах, хто пад бацькоўскім наглядам, хто астаўся сам-насам. Аднак гэтых апошніх большасць. Тое, што я прыкмячаў у сваіх публікацыях „Небяспечна на кузаўскай вуліцы" („Ніва" н-р 19 ад 12.05.1996 г.) і „Як выхоўваем так і маем" („Ніва" н-р 2 ад 14.01.1996 г.) сталася рэчаіснасцю. Як і ў мінулым годзе, так і зараз, гуляюць падлеткі на матацыклах па кузаўскай вуліцы. А дзецюкі тым часам іграюць у футбол на асфальтаванай дарозе. Ездзяць на „рольках" ды самакатах. Не звяртаюць увагі на аўтамабілі ці іншы транспарт. У кожную хвіліну можа здарыцца бяда. Хто застанецца вінаватым: той хто зрабіў выпадак, ці бацькі, якія дазволілі сваім дзецям гуляць на вуліцы без дагляду?

Адно пэўнае, абвінавачваць будуць адны другіх. Таму яшчэ раз перасцерагаю і бацькоў і сторажаў парадку: спыніце самаволю юных спартсменаў. Бо ці гэта магчыма, каб бацька і маці не ведалі, што іх сыночка няма да поўначы ў хаце? Ці іх не палохае гул матораў, піск шынаў і лаянкі падлеткаў на вуліцы а другой гадзіне ночы? Я, як чалавек і як грамадзянін, патрабую спакойнага адпачынку пасля працы. Не кажу ўжо аб старэчах і хворых, якіх у нашай вёсцы ўсё прыбаўляецца.

Нядаўна ехалі мой калега Міхась Б. з сынам на веласіпедах. Было гэта каля дзесятай гадзіны вечара. Каля сядзібы аднаго паважанага грамадзяніна вёскі Кузавы расселіся па ўсёй шырыні вуліцы некалькі падлеткаў, так што нельга было іх абмінуць. Калі Міхась Б. з сынам пад'ехалі бліжэй, сын паважанага гаспадара сказаў:

— Гэтыя з нашых. Прапускаем!

Іншы прыклад. У ГОКу ў Чаромсе ад чэрвеня пачалі арганізаваць вечары музыкі „disco-polo". Рэкламу арганізатары давалі па Беластоцкім радыё. Аднак, як мне стала вядома, чатыры чарговыя вечарыны не далі арганізатарам прыбытку, а толькі страту. У чым справа? А ў тым, дараженькія, што група малалетніх хуліганаў палохае кожнага, хто хоча культурна правесці вечар. Сталася нават так, што некалькі падлеткаў пачало бойку з ахоўнікамі, пабілі аўтамабіль, на якім прыехалі арганізатары.

Праўда, ахоўнікі зрабілі заяву ў паліцыю. Незадоўга справа будзе разгледжана пракуратурай. Але, ці да гэтага кампраметуючага здарэння павінна было дайсці ў Чаромсе?

Сакратар Гміннай управы так канстатаваў паводзіны хуліганаў:

— Чаромха яшчэ не дарасла да таго, каб можна было ў нас арганізаваць культурныя мерапрыемствы.

Ці гэта праўда? Мне здаецца, што хтосьці ў нас дармна бярэ грошы за сваю працу. Думаю тут аб мясцовай паліцыі. Чаму не хапае стоража парадку заўсёды там, дзе яго мы патрабуем? Як сведчаць факты, паталагічныя з'явы ў Чаромсе ўсё больш распаўсюджваюцца. Хуліганы бяскарна атручваюць наша жыццё. А мы бездапаможна складаем рукі. Калі закончыцца гэты кашмар?

**Уладзімір Сідарук**

# Чысты шпірт

Самыя таленавітыя з выпівохаў пад Гайнаўкай маюць фантазію! Піць *дзінатуру* або звычайную гарэлку можа абы-хто: бярэш пляшку, адкручваеш вінт і наліваеш сабе па-прэзідэнцку: „Здрове вашэ ў гардло напэ!" Вядома, ад *дзінатуры* сіні нос і іншае, ад гарэлкі косці сохнуць, „Раял" разбаўляеш вадою практычна невядомага паходжання (іншая справа, калі Гайнаўшчына будзе ўжо забяспечана ачышчальнямі сцёкаў і іншым экалагічна карысным) і можаш дастаць нястраўнасці. Ужыванне ўсяго, што пахне хоць крыху алкаголем (*дзікалоны, руския духі*, вадкасці для машын і для жаночай касметыкі...) праз нейкі час робіцца нудным, і трэба натужыцца уяўленне.

Вось новыя рэцэпты. Першы — сучасны кактэйль „Мулатка" — мяшанка дэнатурату і вядомага ва ўсім свеце а нават на Месяцы напою „кока-кола". Можна разліваць яе проста з бутэлек тыпу *Pet* у шкляначкі з-пад гарчыцы — „муштардоўкі" (класічны разліў). Другі — „Еўрапейка": да дэнатурату дадасца прэпарат для адбельвання тканін „Ачэ". Атрымліваецца зусім чысты, проста крыштальны *шпірт*, і пахне ён вельмі адмысловa, як кажуць у Н. Я сам, праўда, не прабаваў такога „вынаходства", але адзін Коля вельмі хваліў смак і арамат „Еўрапейкі". Казаў, што пасля маеш *pełny odlot*. А ў тым жа справа, каб не абы напівацца, а мець цікавыя ўражанні.

**Вандал Арлянскі**

# Пісьмо маці

Як там жывяце, родныя дзеткі,
Мае вы прыгажуні-кветкі?
Можа багацця ў вас нямнога?
Але паверце: яно ў Бога.

**Марыя Пень**

# Можа ў будучыні нешта выйдзе

*(працяг са стар. 1)*

білі там водаправод — не можам толькі на адной вёсцы засяродзіцца. Трэба так дзяліць сродкі, каб усім было. Да канца кадэнцыі, думаю, у Крыўцы будзе бітумічнае пакрыццё.

***— Ці прыкладваецца дзе каналізацыя?***

— Маем толькі ачышчальню пры школе. Вядзем таксама перагаворы з „Рольмакам”, які хоча ставіць ачышчальню ў сябе. Гэта, аднак, даволі складаная справа, асабліва ў юрыдычным плане. Будзем думаць, ставіць гэтае пытанне на сесіі. У гэтым годзе гатовім дакументацыю на звалку адходаў. Апрацоўвае яе коштам 330 мільёнаў Фонд аховы асяроддзя ў Варшаве. Думаем, што ў будучым годзе пачнем яе рэалізацыю. У гэтым годзе канчаем план прасторавага загаспадарання Нарвы. Аснашчаем таксама месца пад будаўнічыя ўчасткі — даводзім ваду і электрычнасць. Праводзім таксама рамонт пажарнага дэпо ў Трасцянцы, дапамагаем пры рамонце такога ж дэпо ў Нарве, якое перадалі мясцовай камандзе пажарнікаў. Ладзім шлюзы, правялі рамонт ацяплення ў будынку Гміннай управы, памянялі тэлефонную станцыю, таксама ў нашай управе.

***— Калі ўжо мова пра тэлефоны, як мaецца справа з тэлефанізацыяй у гміне?***

— У мінулым годзе закончылі тэлефанізацыю вёскі Іванкі, а таксама чатырох меншых, у якіх дагэтуль тэлефонаў не было. З Міністэрства сувязі атрымалі 280 мільёнаў, далажылі яшчэ сваіх 70 мільёнаў і зрабілі так, што ў выпадку замены „цэнтралі” ў Нарве на аўтаматычную тэлефонную станцыю, можна там будзе памножыць лік абанентаў. Гэта ў ваколіцы Адрынок і Брушкоўшчыны, Граматнага, Качалаў і Даратынкі. Хочам каб больш людзей мела тэлефоны, але пакуль такіх магчымасцей не маем, бо няма ўжо вольных нумароў у старой станцыі і чакаем новай, аўтаматычнай. Абяцаюць нам, што паставяць яе ў 1998 годзе, як будзе новая ў Гайнаўцы.

***— Ці гміна мае якую турысцкую базу?***

— У Нарве маем гатэль на 40 месцаў, у мінулым годзе адрамантавалі яго, клопат толькі з тым, што не забяспечаны ён гастраноміяй.

***— А прыватна не хоча хто весці нейкага бару?***

— Ёсць у нас былы гээсаўскі рэстаран, які цяпер у прыватных руках, аднак рух там невялікі і вядзенне яго не надта аплачваецца. Працуе сталовая ў „Пронары” і прыезджыя мелі б магчымасць сілкавацца ў ёй. У гатэль прыязджае на два тыдні адзін калектыў з Варшавы, а ў школе падчас канікул будуць кватаравацца студэнты Беластоцкай палітэхнікі.

***— Школа можа вядзе базу для вандроўных лагероў?***

— Было гэта, калі яшчэ стаяла старая школа. Цяпер не аплачваецца.

***— Нейкія „калёніі” таксама не арганізуюцца?***

— У Рыбаках — нават з цэлай Польшчы дзеці прыязджаюць; у Нарве такіх магчымасцей не маем.

***— Згануілі вы, што рэстаран у прыватных руках. А што з гээсам?***

— Падае. Задоўжаны; мае яшчэ крыху крамаў і рэшткі адміністрацыі. Не вядзе ніякай прадукцыі, адно гандаль. А з гандлем справа нецікавая, бо вялікая канкурэнцыя з прыватнага боку: вось у самым цэнтры Нарвы будзе з дзесятак прыватных крамаў.

***— Калісь была гээсаўская пякарня...***

— Яна і ёсць, толькі ГС быў вымушаны яе прадаць. Цяпер яна ў прыватных руках і выпякае хлеб не толькі для Нарвы, але і ў Гайнаўку возяць.

***— Як гэта ёсць, што „старыя” фірмы падаюць, а на іх месцы паўстаюць другія, якія дзейнічаюць з вялікім размахам. Асабліва гэта відаць у вас, дзе выраслі „Пронар” і „Рольмак”, а прапаў ПОМ ці многія сельскагаспадарчыя калектывы. Вам тут лепей відаць, чаму так сталася...***

— Новыя фірмы абралі другія напрамкі дзейнасці і зрабілі, як гэта пазней аказалася, вельмі ўдала. ПОМ калісь займаўся рамонтамі грузавікоў і калі запатрабаванне на іх паслугі пачало меншаць, не ўмелі павесці сябе ў новай абстаноўцы. Тым часам суполка „Пронар” наладзіла кантакты з усходам і тады, калі яны на гэта рашыліся, дало гэта добрыя вынікі. Завязалі супрацоўніцтва з Мінскім трактарным заводам, змадэрнізавалі свой завод, дастасоўваючы яго да мантажу трактароў і гэта паставіла іх на ногі. А пасля пашырылі сваю дзейнасць і на другія галіны, напрыклад прадукцыю вады, якую агромнымі транспартамі вазілі на ўсход. Цяпер гэта спынілі, бо няма попыту. Але на трактары попыт не меншае. Параметры яго параўнальныя з „Урсусам”, а цана карыснейшая. Тут у нас можа гэтага не відаць, але ў цэлай краіне „Пронар” мае больш за 60 гандлёвых прадстаўніцтваў і прадае ўсю сваю прадукцыю. Цяпер стаўляюць новы цэх для зборкі цягачоў на чэшскай ліцэнзіі.

Падобна было і з „Рольмакам”. Яны пабачылі, што з раслінnай прадукцыі цяжка будзе ўтрымацца і перакінуліся на гадоўлю, а галоўным чынам на прадукцыю яек. Паставілі спецыяльныя прыстасаванні, аўтаматычныя, і калі з раніцы куры пачынаюць несціся, то працаўнікі ледзь паспяваюць адбіраць тыя яйкі. Яны з'яўляюцца адным з буйнейшых прадуцэнтаў яек у маштабе краіны! Мала таго — пайшлі на комплексную прадукцыю і перапрацоўку мяса: ад свінаматак па сетку сваіх крамаў з гатовымі мяснымі вырабамі.

***— Ці, апрача гэтых двух „тыграў”, у гміне ёсць яшчэ буйныя фірмы?***

— Не; толькі ў Трасцянцы працуе фірма, якая займаецца вырабам скураў і шыццём скуранай вопраткі. Працуе ў ёй некалькі чалавек. Апошнія, гэта сямейныя фірмы.

***— А як з культурай у гміне?***

— Дзейнічае Нарваўскі асяродак культуры (НОК — не ГОК!). Працуе ў ім маладая студэнтка, якая разварушыла яго дзейнасць: тут і танцавальны гурток, і мастацкі, і другія формы дзейнасці. Таксама ў нашай гміне дзейнічае вядомы калектыў „Тыневічанкі”, бяда толькі, што старэе, няма маладога папаўнення. Стараемся як мага ім памагаць, даем транспарт. Апошнім часам адбыўся ў нас Дзень дзеяча культуры (шкада толькі, што мала было ўдзельнікаў), арганізаваны супольна з „Пронарам”, у якім, дарэчы, таксама дзейнічае артыстычны ансамбль пад кіраўніцтвам інструктара з Беларусі. Цешыць нас гэта, што моладзь мае магчымасць развівацца а і грамадству даступны непасрэдны кантакт з культурай.

***— Быў час, што некаторыя гміны арганізаваліся ў, напрыклад: Саюз гмін верхняй Нарвы, Саюз гмін Усходняй Беласточчыны ці Саюз гмін Белавежскай пушчы. Ці Нарваўская гміна належыць сёння да нейкай такога роду арганізацыі?***

— Належым да Згуртавання гмін Белавежскай пушчы, якое завязалася даволі нядаўна. Намерыліся мы праводзіць дзеянні, напраўленыя на ахову Белавежскай пушчы. На сустрэчы з ваяводам прадставілі мы свой погляд на гэты справы, да якога ваявода аднёсся са зразуменнем. Ацаніў ён, што нашы задумы рэальныя і напраўлены ў добры бок. А як гэта нам выйдзе, пакажа час. Да другіх арганізацый не належым, бо справа не ў тым, каб многа, але каб быў з гэтага нейкі толк, нейкая карысць.

***— У Варшаве ідзе змаганне за паветы. А як тут, далёка ад сталіцы, патрэбныя вам гэты паветы ці не надта?***

— Мы тут разглядалі гэту справу і з нашага тут, самаўрадавага пункту гледжання паветы нам непатрэбныя. Выкліча гэта толькі адміністрацыйныя перарасты, бо трэба будзе стварыць шэраг паветовых органаў, а ў іх пасадзіць служачых. У цяперашняй сітуацыі мы ў сілах справіцца з усімі праблемамі, апрача геадэзічных.

***— Мы — гэта хто?***

— Такое думкі нашы радныя, працаўнікі Гміннай управы. Падобнае да нашага стаўленне да гэтай праблемы і ў суседніх гмінах, можа апрача Гайнаўкі — вядома.

***— Нарва, так як і Кляшчэлі, да 1950 года была горадам. Кляшчэлі ўжо вярнулі сабе гарадскія правы, а як Нарва?***

— Гэта праблема была пастаўлена ўжо ў папярэдняй кадэнцыі і нам асталося давесці справу да канца. Мы сабралі ўсю неабходную дакументацыю і прадставілі яе ва Управе Рады Міністраў. Прыехала да нас прадстаўніца Рады Міністраў, праверыла ўсё на месцы. Добра гэта выглядала, амаль усе крытэрыі мы споўнілі... Толькі адзін, найважнейшы, на жаль, не даў нам поспеху: горад павінен налічваць сама менш дзве тысячы жыхароў, а ў Нарве толькі паўтары. Такім чынам нашы намаганні былі адмоўлены, атрымалі мы ўжо рашэнне на гэты конт, перадаў я яго Гміннай радзе і звярнуўся да маладых каб яны стараліся, то можа ў будучыні нешта выйдзе.

***— Колькі тады ў Нарве салэцтваў?***

— Тры.

***— А ў цэлай гміне?***

— Трыццаць восем.

***— Як складваюцца вашы суадносіны з вярхамі; маеце якія клопаты?***

— Ніякіх праблемаў няма, супрацоўніцтва ладзіцца добра. Самаўрады самастойныя, рашэнні прымаем без аглядкі на вярхі, абы толькі былі ў згодзе з законам. Калі нечага ад нас хочуць, стараемся даць ім гэта ўпору.

***— Ну, але яны маюць заўсёды нейкія грошы да падзелу...***

— Заўсёды, калі мы нешта патрабавалі і спаўнялі на гэта вымогі, атрымоўвалі тое, што нам належыць.

***— А як вам ладзіцца праца тут на месцы, з Гміннай радай?***

— У кожнай радзе ёсць розныя асобы, якія маюць розныя характары, розныя тэмпераменты, па-рознаму падыходзяць да паасобных спраў. Праблемы, аднак, рашаем так, каб была ад гэтага грамадская карысць.

***— Што можаце сказаць пра беларускія справы ў Нарваўскай гміне?***

— Штогоду адбываецца ў Нарве беларускі фэст, таксама планавалі і ў гэтым годзе, на 28 ліпеня. У лютым наведалі мяне прадстаўнікі Звязу беларускай моладзі і паведамілі, што 6 ліпеня хочуць арганізаваць у нас маладзёжнае Купалле ды звярнуліся з просьбай, каб ім дапамагчы. Я згадзіўся, ды і мае супрацоўнікі прывіталі гэту ініцыятыву з задавальненнем. Вызначылі месца і ўсё, што трэба. І вось, у сувязі з гэтым, фэст БГКТ правядзем не ў Нарве, а ў Тыневічах. Мы, як галоўны спонсар, гатовім усё, фінансава дапамагаем. Адбудзецца таксама другі фэст, у Ласінцы, з ініцыятывы пасла С. Плевы, якога таксама будзем спонсарамі.

***— А цяпер пытанне асабістага характару: ці варта было быць войтам?***

— Гмінныя справы не былі мне чужыя, — працую тут ад 1959 года. Людзей ведаю, асяроддзе. Задумаў паспрабаваць. Былі тут раней напружанні, між іншым з пастарункам паліцыі. Я стараўся быць там, дзе было важна, нават калі і нявыгадна, рашаць балючыя справы, дагаворвацца. Не адчуваю, што я нешта з гэтай прычыны прайграў — гэта прыдае мне сілы. Цешуся, калі ўдасца зрабіць нешта карыснае.

***— Дзякую за размову і жадаю, каб і надалей справы складаліся карысна так гміне, як і вам асабіста.***

# Вызваленне

*(працяг са стар. 1)*

лі малака. Мусульманскі рэлігійны закон не дазваляў ім харчавацца свінінай. Салдаты з калгасаў моцна вылучаліся з ліку апошніх, у прынцыпе былі ніжэйшымі, мелі шэрыя, ненатуральна пастарэлыя твары. Чарнявыя лейтэнанты нахабна хацелі жаніцца з кожнай напатканай дзеўкай, але камандзіры на салдацкае сватанне дазволілі толькі тым, што дайшлі да межаў Нямеччыны.

Некалькі тыдняў пасля вызвалення Беласточчыны маладыя мужчыны былі прызваны ў рэкруты. Сталі польскімі жаўнерамі. Былыя капэзэбоўцы, камсамольцы і ўдзельнікі савецкага падпольнага руху падаліся ўмацоўваць польскую народную ўладу. Пры канцы года ў дзверы шматлікіх беларускіх дамоў пастукала „подземнэ войско польске”. Пачыналася новая эпоха — гады слёз, страху, бяссільнай роспачы, бяссэнсавых ахвяр. Але гэтым разам беларусы пачулі на спінах стволы аўтаматаў, якіх не трымалі ў руках чужыя захопнікі, а часта людзі з суседніх вёсак.

**Яўген Мірановіч**

# Не магу забыць

Праходзіць жыццё на чужыне,
дзень за днём,
за гадзінай гадзіна,
за нядзеляй праходзіць нядзеля.
Але не праходзяць успаміны
пра дзедаў дом,
пра бабуліны песні за пражай кудзелі,
пра клапатлівую маці
з чапялой ля печкі,
спеў дзяўчат на лузе ля рэчкі...
Помню лясы, бары, поле,
пах цвітучай грэчкі,
бэз у квецці каля хаты,
градку пахучай мяты,
дуб вялікі калматы ля плоту,
чабарок на пагорку,
васількі ў жыце...
Гаспадара-руплівца, свайго бацьку,
яго пра гаспадарку клопат,
на дзедавай хаты саламянай страсе
бусла гняздо і яго клёкат...
З памяці сваёй, мне паверце,
не забуду нічога да смерці.

**Сымон Шаўцоў**
**Аўстралія**

# Маем больш за сто студэнтаў


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**5, 6 і 7 ліпеня г.г. у Гайнаўцы праходзіла навуковая канферэнцыя, прысвечана саракагоддзю Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. З загадчыкам Кафедры праф. Аляксандрам БАРШЧЭЎСКІМ размаўляе Ганна Кандрацюк.**

***— Якое значэнне мае існаванне беларускай філалогіі ў Варшаве?***

— Значэнне адназначна пазітыўнае! Кафедра была створана з той мэтай, каб даваць магчымасць пашыраць беларусазнаўчыя веды для выпускнікоў беларускіх ліцэяў. Гэта адно значэнне. Другое — агульнапольскае. Узнік цэнтр, які развівае беларусазнаўчую навуку. Мы не былі наватарамі. Ужо перад намі былі вядомыя даследчыкі беларускасці ў Польшчы, такія вучоныя як Галомбэк, Грабскі, прафесар Яблонская і іншыя. Кафедра беларускай філалогіі сталася ўстановай, якая занялася навучаннем студэнтаў. У гэтым якраз і заключаецца ідэя стварэння кафедры.

***— Дзе працуюць выпускнікі беларускай філалогіі?***

— Дагэтуль закончыла філалогію больш за трыста выпускнікоў. Працуюць яны і як настаўнікі, і як журналісты на радыё, у выдавецтвах, як перакладчыкі, працуюць яны ў беларускіх грамадскіх арганізацыях. Трэба адзначыць, што пяць нашых выпускнікоў займаюцца творчасцю на беларускай мове, а трох з іх ліку гэта члены Саюза польскіх пісьменнікаў.

***— Колькі зараз сярод студэнтаў беларусаў з Беласточчыны?***

— Колькасць беларусаў з Беласточчыны сістэматычна і з кожным годам паменшваецца. Наколькі на першым курсе ў 1956 годзе мы прынялі дваццаць беларусаў з Беласточчыны, пасля ў 60-х і 70-х гадах складалі яны 80% студэнтаў, то тэндэнцыя ў 80-ыя і 90-ыя гады адвярнулася. Цяпер вучыцца ў нас больш за восемдзесят працэнтаў палякаў і толькі дваццаць працэнтаў беларусаў. Чаму? Па-першае таму, што выпускнікі нашых ліцэяў могуць без перашкод вучыцца ў Беларусі. Там маюць яны гарантаваныя і стыпендыі (10 долараў у месяц — Г. К.), і інтэрнаты. Мы не заўсёды гэтак забяспечваем сваіх студэнтаў. Утрыманне студэнта ў Варшаве — сёння сур'ёзная праблема.

Як я да таго адношуся як беларус? З аднаго боку гэта мяне баліць, з другога — я разумею абставіны, з трэцяга боку я цешуся, што Кафедра беларускай філалогіі перастае быць беларускім гета. Яна становіцца адкрытай, навуковай установай.

***— Як ацэньваеце студэнтаў-палякаў, якія паступаюць не ведаючы беларускай мовы?***

— Вельмі па-рознаму такія студэнты ставяцца да нашага напрамку. Нельга адказаць на гэтае пытанне адназначна. Ёсць прынамсі некалькі груп з рознай матывацыяй. Першую групу складаюць студэнты, якія кіруюцца традыцыямі Міцкевіча, Сыракомлі, Ажэшка, Янкі Брыля, Янкі Купалы, якія былі прапаведнікамі беларуска-польскага супрацоўніцтва. Другая група кіруецца гістарычнымі адносінамі паміж Польшчай і Беларуссю, паколькі паміж гэтымі краінамі больш было гармоніі, а мала агню і полымя. Яшчэ іншыя студэнты матывуюць свой выбар узнікненнем незалежнай беларускай дзяржавы. Яны ведаюць, што іх веды прыдадуцца польска-беларускім адносінам. Але і ёсць такая група студэнтаў, якія разлічваюць на тое, што на іншых напрамках не маюць магчымасці быць прынятымі. Зараз мы мелі 57 кандыдатаў, з якіх прынялі аж 46. І думаю, што ёсць сярод іх з дваццаць асоб, якія паступалі адначасна і на іншыя напрамкі.

***— Ці задавальняе вас навуковы ўзровень Кафедры?***

— Сказаць такое пра сябе, значыць, хваліцца. Напэўна не зроблена стольскі, колькі можна было зрабіць. Я думаю, што супрацоўнікі Кафедры беларускай філалогіі зробяць гэтае. Найважнейшае заданне для нас — гэта стварэнне вялікага беларуска-польскага слоўніка. Маем шмат навуковых выданняў. І літаратурных. Кафедра развіваецца. Калі я стаў яе загадчыкам у 1974 годзе, было ўсяго 28 студэнтаў. Зараз мы маем больш за сто студэнтаў.

***— Ці не лепш было б для беларусаў у Польшчы, калі б беларуская філалогія існавала ў Беластоку?***

— Я думаю, што няма супярэчнасцей, каб Кафедра ўзнікла ў Беластоку. І дай Божа, каб яна развівалася як найбольш актыўна. Доўгія гады мы былі адзінай Кафедрай беларускай філалогіі ў свеце, па-за межамі Беларусі. Сёння існуюць дзве філалогіі ў Любліне, па адной у Беластоку і Аполі. Няма ў свеце краіны, дзе было б столькі беларускіх філалогій.

***— Дзякую за размову.***

# Дыскатэка ў „Мэтцы"

Недзе ў пачатку сямідзесятых гадоў пры вуліцы Пясковай у Беластоку пабудавалі гастранамічны аб'ект, які меў абслугоўваць рабочых, сканцэнтраваных у гэтым квартале заводаў — мясакамбіната і двух халадзільных прадпрыемстваў. Работніцка-сялянская ўлада клапацілася тады аб самаадчуванні працоўных мас, хаця, як пазней аказалася, у нічым ёй гэта не памагло. Але пакуль „Польшча расла ў сілу, а люд жыў багата", гастранамічны барак пры вуліцы Пясковай, невядома чаму названы „Мэткай", перапоўнены быў вясёлай кампаніяй. Чэргі стаялі за вырабамі дайлідскай піваварні. Пакуль працоўныя масы горада, не зусім цвярозыя і не зусім п'яныя, выйшлі за брамы сваіх заводаў, у „Мэтцы" паспелі ўжо аформіць свае справы сяляне, якія тут куплялі пляцы пад будучыя катэджы. Школьная моладзь, якую настаўнікі нуднымі лекцыямі давялі да стомы, спакойна і культурна чакала тут заканчэння апошніх заняткаў. Некаторыя з іх мелі яшчэ нават сілу вяртацца на сваіх нагах дахаты. Да абеду мясцовыя люмпены паспелі найчасцей працверазіцца пасля ўдару першай хвалі разнаколерных напіткаў. Пасля абеду заўсёды пару чалавек адпачывала ў навакольных кустах ці проста на пясчаных дарогах. Пару разоў здарылася, што чалавек падаўся на адпачынак і больш не падняўся. Толькі калі надта доўга ён так ляжаў на зямлі, нехта з мясцовых жыхароў званіў па міліцыянераў. Вельмі рэдка здаралася тут забойства ці, дакладней кажучы, смерць падчас мардабою.

Будынак, як і ўсё навокал, страшэнна смярдзеў мачой і папяросным дымам. У чэрвені 1987 года над усходнімі кварталамі горада прайшла страшэнная бура. У ваколіцы „Мэткі" вецер ламаў дрэвы, скідаў дахі з дамоў. Упала таксама велізарная таполя, якая расла побач барака. І ў сапраўднасці невядома, чаму падаючае дрэва пашкодзіла толькі сметнік, што стаяў побач „Мэткі". Страшэнна наракалі жыхары навакольных дамоў, што нават бура не паспрыяла іх марам вызваліцца ад гэтага кашмарнага суседства. Але неўзабаве дачакаліся яны зменаў.

У 1989 годзе, разам з надыходам новай палітычнай рэчаіснасці, абанкруцілася большасць пээсэсаўскіх бараў і крамаў. Нехта ў 1991 г. узяў у арэнду „Мэтку" і пачаў вытворчасць паштэтаў, лівернай каўбасы і чорт ведае яшчэ чаго. Хаця не было натоўпу п'яніцаў, смурод надалей быў невыносны.

Два гады таму змяніўся ўласнік. Брудны барак абклаў ён руживым сайдынгам, павесіў чырвоныя ліхтары, памаляваў усё звонку і ўнутры. Вялікая шыльда інфармавала, што ў будынку знаходзіцца рэстаран і дыска-клуб „Рампа". Адмененая да непазнакі „Мэтка" запрашала ўсіх, але сінясосыя даўнія аматары яе асаблівай атмасферы маглі пасядзець толькі на каменнай агародцы пры ўваходзе ў рэстаран. Летам па пятніцах, суботах і нядзелях збіралася там шмат маладых людзей, але былі гэта асаблівыя госці. Аўтамабілі, на якіх яны прыязджалі, не часта сустракаюцца на вуліцах Беластока. У суседніх будынках можна было, не адкрываючы вокнаў, танцаваць наперамену ў рытм дыска-пола і рок-музыкі. Наступнага дня позняй раніцай дыска-клуб пакідалі дамы, якіх прыгажосці магла б пазайздросціць не адна ўдзельніца конкурсу „Міс Палёнія". Адкрытая поўнасцю даўжыня ног гэтых дзяўчат вылучала іх на фоне мясцовых бяззубых „матэкполек", якія час ад часу ўподбежкі недзе спяшаліся па балоцістых вуліцах. Спадары, якія вечарком захапляліся грацыяй даўганогіх дам, ад'язджалі пару гадзін раней, пакуль першыя промні сонца развеялі чароўнасць летняй ночы.

У гэтым годзе неяк ціха зрабілася ў ваколіцы „Мэткі". Невядома дзе падзеліся дыскатэкі, шыкарныя аўтамабілі і незвычайнай прывабнасці дзяўчаты. Нават сабака, які раней за акружаючай рэстаран жалезнай сеткай заядла брахаў на ідучых ранкам на працу рабацяг, сёння па сметніках шукае сродкаў для праіснавання. Рынкавая сістэма аказалася безлітаснай таксама і для сабак.

**Васіль КУРГАНОВІЧ**

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

### Свядомасць

Дзе хвалі застылі
і спіць святло на дне,
у дарозе бесцялеснасць.
Думка не ведае межаў,
спатыкаецца толькі на глыбах,
што кідае пад ногі матэрыя.
Толькі прывідны пейзаж,
як утоены змест
у палітры фарбаў,
сапраўдны.

### Абрыў

Стоячы на каленях,
глытаю жменямі ваду.
Крок далей — тоня,
халодная беззваротнасць.
За плячыма дарога доўгая,
аж скронь пасерабрэла.
Бегчы магу толькі берагам.
Магу яшчэ маўчаць,
як маўчыць абрыў
з незагоенай ранай.

### У чорную ноч

Неба без зорак,
як удава ў чорнай сукенцы.
Ніхто не працягне рук
у пустую прастору,
не знойдзе гараскопу
ні на сёння,
ні на заўтра.
У цяні месяца
не скажаш —
ні людзям, ні сабе,
дабранач.

### Боль жыцця

Каб хоць глыток сонца!
цяжкія хмары
паўзуць марудна
па маёй бясконцай
журбе.
Па сваёй волі
згубіў цёплы світанак
і залатое кальцо ночы.
Дзе вы, парывы,
што жыць мелі вечна?
Дзе біблія слоў —
чытаць не перачытаць?
Раскрыўся насцеж,
душа на пустыні,
а сонца,
наўрад, ці паспее дагнаць
боль жыцця.

### На сконе

Рэчышчам часу
ўцякае пейзаж,
што птушка намалявала.
Спарахнее дрэва
і грань надыдзе,
і загаворыць вецер.

### З-пад павекаў

Няма згубленых думак,
за кожным жыццём,
Жыццё чарговае,
а неба без зорак
мёртвае.
За вуліцай вуліца,
без звенняў няма ланцуга;
за плячыма світанне,
а намер — бутонам.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

### На маставой

Крычыць паліцыі сяржант:
— Чаму такі ты рызыкант,
Не йдзеш па „зебры” акурат?
Будзеш цяпер плаціць мандат!

Адказвае яму Яўген:
— Таму, што я актыўны член
Таварыства сяброў звяроў.
— Тады прабач і будзь здароў!

### Ці трыццаць год замала?

— Ці можаш нешта ўспамянуць
Пра Трыццацігадовую вайну?
— Магу сказаць, — азваўся Вася, —
Што трыццаць год яна вялася.

— А гэта крыху замала, —
Настаўніца адказала.
— Трыццаць год ваююць людзі
І гэта замала будзе?

### Лава прысяжных

— Даведацца мне цікава, —
Запытаў тату Бора, —
Што робіць прысяжных лава,
Аб якой часта гаворыць.

Адказаў на гэта тата:
— Вырашае ў суда разгары,
Хто мае лепшага адваката
Злачынец, ці ахвяра.

## Спявалі на фэсце

Ласінскія „Лісічкі” частыя госці нашай старонкі. За год існавання набылі яны немалую вядомасць і папулярнасць.

7 ліпеня ў Ласінцы праходзіў беларускі фэст. З цэлага наваколля назыходзілася процьма народу. „Лісічкі” першыя выйшлі на сцэну. Яны, як вясковыя энтузіясты беларускай мовы, праспявалі свае шэдэўры. Публіка захапілася (а пазней яшчэ некалькі дзён успамінала) цудоўнае выступленне Паўлінкі Пашко і яе сяброўак. І хаця час ад часу псаваліся гукаўзмацняльнікі, „Лісічкі” і так пакарылі публіку. Заслуга ў гэтым не толькі самога таленту, але і сімпатычнасці дзяўчынак і адпаведна дабранага рэпертуару. Якраз апякунка „Лісічак” матушка Аліна Кос у гэты дзень не прысутнічала. Дзяўчаткамі апекаваліся настаўнікі і бацькі спявачак. Бо на фэст прыйшлі ўсе мамы і таты „Лісічак”, іх сябры, сваякі, аднавяскоўцы.

„Лісічкі” пэўна не пакінуць сваіх песень. Яны яшчэ не раз выклікуць захапленне беларускай публікі.

**Зорка**



*Ласінскія „Лісічкі” і „Тыневічанкі” з Тыневіч.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Першая канстытуцыя Беларусі

Заканадаўства — падстава існавання кожнай цывілізаванай дзяржавы. У Беларусі яго парадкаванне пачалося яшчэ ў XIV стагоддзі, калі ў суседніх краінах такія працэсы праходзілі на стагоддзе ці два пазней.

Першы збор правоў, названы беларускімі юрыстамі „Статутам Вялікага княства Літоўскага”, быў выдадзены ў 1529 годзе, як абавязваючы закон для ўсёй краіны. Наступныя „Статуты” ў больш дапрацаванай форме паказаліся ў 1566 і 1588 гадах. Асабліва апошні „Статут” адлюстроўваў уплывы еўрапейскага гуманізму на заканадаўства Беларусі. Нідзе ў Еўропе новыя ідэі так моцна не паўплывалі на заканадаўства, як у Вялікім княстве Літоўскім. Статут ад 1588 г. забараняў пакаранне непаўналетніх, якія не скончылі 16 гадоў, прадаваць людзей у няволю за даўгі. Прадугледжваў ён таксама крымінальную адказнасць шляхты за нанесеныя сялянам злачынствы. На той час былі гэта рэвалюцыйныя змены. Статуты прымушалі ўсе дзяржаўныя органы і службовыя асобы дзейнічаць згодна з законам. Беларускія юрысты стварылі права, якое мела стрымаць дэспатызм улады і феадалаў у адносінах да сялян і мяшчанства.

Статут ад 1588 года забараняў прызначаць на дзяржаўныя пасады замежнікаў, у тым ліку і палякаў, хаця іх краіна пасля Люблінскай уніі 1569 г. была другім кампанентам, побач Вялікага княства Літоўскага, супольнай Рэчы Паспалітай.

Статут быў напісаны на беларускай мове, але ў XVII стагоддзі пераклалі яго на польскую, нямецкую, французскую, украінскую і расейскую. Яго змест у рознай форме выкарыстоўваўся пры канструяванні права ў большасці еўрапейскіх краін.

## Скарб зачараванай жанчыны

Аднаго разу мой прадзед Пятро Дзямянюк вяртаўся з вёскі. Ішоў ён лесам і раптам прыкмеціў, што сярод кустоў нешта свеціцца. Ён падумаў, што гэта нейкія жулікі паляць агонь у яго лесе і хацеў іх прагнаць. Выскачыў ён з-за куста з розгаю, але раптам спыніўся. Выявілася, што гэта не нейкія жулікі, але з'ява. Была гэта маладая жанчына, якая часала свае доўгія, сягаючыя аж па пояс валасы і плакала. Мой прадзед вельмі спужаўся і ўцёк дадому. Потым расказаў пра гэтае здарэнне старэйшым людзям у вёсцы. Растлумачылі яны, што ўбачаный з'явай была зачараваная жанчына і хапіла б зняць з сябе нейкую частку вопраткі, каб жанчыну адчараваць. Узнагародай за гэтакі ўчынак быў бы вялікі скарб. Мой прадзед шкадаваў, што не зняў з сябе нейкай часткі адзення.

Людзі з часам забыліся пра гэтае здарэнне, але нядаўна, прыблізна год таму назад, нехта капаў у гэтым месцы пясок і выявілася, што знаходзяцца там аграмадныя залежы гравію. У час рамонту дарогі будаўнічая фірма звярнулася з просьбай да гаспадара гэтай дзялянкі, каб ён дазволіў ім чэрпаць гэты гравій. За грошы, атрыманыя за гравій, гаспадар пабудаваў два дамы — сабе і сваёй дачцэ.

**Пятро Дзямянюк**



*Пятро Дзямянюк і Лукаш Жукоўскі размалёўваюць шпрэем карціну.* Фота Г. КАНДРАЦЮК

## Сон куркі Чубаткі

*(беларуская народная казка)*

Аднойчы курыцы Чубатцы сон прысніўся.

— Калі не пойдзеш да рэчкі Сінюхі, дык канец свету будзе! — пачула курка ў сне. Зляцела яна на зямлю і пайшла над рэчку. Па дарозе сустрэла качку.

— Куды ідзеш Чубатка? — пытаецца яе сяброўка, качка.

— Мне сон прысніўся і там казалі, што калі не пайду над рэчку Сінюху, канец свету будзе! — расказвала курка.

— Давай абедзве пойдзем, — прапанавала качка. — Заўсёды весялей будзе!

І пайшлі. Ідуць, ідуць і сустракаюць гуску.

— Куды ж так спяшаеце, — пацікавілася гуска. Давай і ёй Чубатка пра сон расказваць.

— І я з вамі пайду! — заявіла гуска.

Ішлі, ішлі, дайшлі да лесу. А там лісіца іх сустракае.

— Куды ж вы, міленькія, так спяшаецеся? — ласкава папыталася ліска.

Курка і ёй сон расказала.

— То да мяне на гарбатку, галубачкі, зайдзіце, — намаўляе хітрая лісіца.

Паслухалі яе курка, качка і гуска. Ліска распаліла печку і ўсе госці паснулі. Курка раней узляцела на паліцу. А ліска схапіла качку і гуску і ў печ! І спякла іх сабе на вячэру. Курка як тое пабачыла, дык праз вакно, ды хутчэй дахаты.

**Зорка**

## Вучнёўская творчасць

### За здраду, за непашану

Баюся звідаў, мрояў...
Не ведаю нічога —
Люблю і ненавіджу людскі род.
Кахаю, ды не Яе — краіну!

Гэтыя думкі нас даганяюць,
Гэтыя думкі нас прасякаюць.
Сумныя будні нам выпадаюць:
За здраду, за непашану!

Любві да роднага не знаем,
Сваю Айчыну не кахаем.
Гэтыя думкі нас занялі.
Гэтыя думкі перамаглі.

**Аня Садоўская**

# Пачвары і пудзілы

Можа ў час вакацыйных вандровак давядзецца вам пабываць у Варшаве. Адно з вартых увагі месцаў там — заалагічны парк. Усе мы любім звяроў, дык, думаю, нікога асабліва не трэба намаўляць завітаць туды. Тым больш, што ў заапарку можна паглядзець экзатычных жывёл, якія не водзяцца ні ў нашых гаспадарках, ні ў навакольных лясах ці палях.

Але я хачу заахвоціць вас наведаць выстаўку, якая там побач. Паказваюць на ёй пачвар, якія жылі на зямлі даўно-даўно таму — дыназаўраў.

Сабраныя яны ў такой вялікай як быццам пуні, адкуль дабываецца грозны рык ды іншыя таямнічы гукі. Уваходзім у паўзмрок і зараз за дзвярыма сутыкаемся з нейкім велічэзным стварэннем, якое скаліць у наш бок доўгія, вострыя зубілы. У дадатак яшчэ варушыць галавою і касматымі лапамі з вострымі, у крук сагнутымі пазурамі. Чым далей, тым страшней, але і цікавей. Можам паглядзець дыназаўры трава- і мясаедныя, тыя, якія жылі на зямлі і плавалі ў вадзе. Паказана вогнішча ў пячоры, дзе жыў першабытны чалавек і сцэна палявання, у якой продак сённяшніх драпежнікаў з'ядае здараваннага маманта. Або маркі акоптус абвівае сваімі васьмю шчупальцамі шыю, што высоўваецца з ракавіны.



*Продак сённяшніх драпежнікаў з'ядае здараваннага маманта.*

Адной магутнай чарапахай можна нават кіраваць. Перад ёю спецыяльны пульт з разнаколернымі кнопкамі. Націскаючы іх можна скіраваць галаву чарапахі ўправа або ўлева, дабыць з пашчы рык, можна таксама падняць або апусціць яе лапы.

Не раю наведваць выстаўку з малымі дзецьмі, бо яна для іх сапраўды страшная. І яшчэ што можа зняахвоціць, гэта высокая цана (дарослыя — 6 злотаў, дзеці 4,5 злота). Апошнія заўвагі, зразумела, для вашых бацькоў. Вам варта ўсё-такі намаўляць іх, каб вас на выстаўку дыназаўраў звадзілі.

**Мікола Ваўранюк**
*Фота Аліны Ваўранюк*



*Сяброўкі.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Вершы для дзяцей

**Станіслаў Валодзька**

### Мірон

Ў першым класе наш Мірон
За вакном лічыў варон.
А настаўнік гэта бачыў
І задаў яму задачу:

— Дваццаць пяць варон сядзела,
Шэсць яшчэ на дрэва села,
Тры ў паветра паднялося.
Колькі стала?..

— Дваццаць восем. —
Хутка даў адказ Мірон.

— Добра лічыш ты варон!

### Салодкі сон

— Мама, сніў я сон салодкі,
Быццам еў я шакаладкі,
З пасцілой уперамешку!

— Ну, сынок, — салодкаежка!

### Гаспадыня пра ката

— Ой, разумны наш кот
І вясёлы наш кот!
Ён бы мог вам такі
Расказаць анекдот!
Ды пакрыўдзіўся ён,
Што павысілі тон,
І вось зараз наш кот
Аб'явіў нам байкот.

### Мама-Пальма

Мнагадзетнай мамай
Стала наша Пальма.
Мы яе віншуем
І часцей частуем.

Між сабой падобны
Смешныя шчаняты,
Цяжка іх адрозніць,
Бо яны ж блізняты!

### Казусны выпадак

Неяк раз, падляцеўшы, казе
Страказа села проста на нос.
І сказала каза страказе:
— Сустракала я многа стракоз,
Ды як ты, стракатуха, такой
Дураслівай больш, пэўна, няма. —
Паківала каза галавой:
— Эх, была б страказой я сама!

### Будаўнікі

Каля сцяжынкі —
Мурашынае шашы
Будуюць дом
Шматпавярховы
Мурашы.
Так дзень за днём
Яны шчыруюць
Ад душы,
Бо мурашы
Не хочуць жыць
У шалашы.

# Крыжаванка № 29

Запоўніце клеткі адпаведнымі словамі. Калі вы правільна адгадаеце ўсе словы, атрымаецца лозунг.

беларускі рок-гурт з Гарадка
менскі рок-гурт як магазін
спявае „А мая айчына-маці травой зарастае"
менскі рок-гурт як хорам
траш-метал-гурт з Менска
лаўрэат Гран-пры на „Басовішчы" ў 1995 г.
урочышча, дзе адбываецца „Басовішча"
жанр музычны „Басовішча"

**Адказ на крыжаванку з 24 н-ра.**
**Лозунг**: Хутка канікулы.
Аўтаручкі (cienkopisy) выйгралі: **Бэата Мінько** з Ласінкі і **Юстына Кулачэўская** з Бельска-Падляшскага.
Узнагароды можна адабраць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

# Слаўны Усяслаў Чарадзей

Ілюстрацыі, паводле нарыса Міколы Гайдука, намаляваў таленавіты Пятрусь Дземянюк. Пятрусь родам з вёскі Падрэчаны. Зараз перайшоў ён у сёмы клас Пачатковай школы ў Чыжах. У „Зорцы" часта змяшчаем малюнкі Петруся. Ён таксама пастаянны ўдзельнік Сустрэч „Зоркі". Сёння друкуем таксама легенду „Скарб зачараванай жанчыны", якую Пятрусь пачуў ад свайго дзеда. Варта адзначыць, што хлопец непараўнальны майстар у рыцарскай і таемнай тэматыцы. Гістарычныя персанажы, намаляваныя Пятром, захапляюць.

***(працяг комікса ў наступным нумары)***






# Не пакідаць у лесе

Афіцыйнае Купалле адбылося на пероне чыгуначнага вакзала Белавежа-Палац, пабудаванага калісь для выгады расейскага цара. Чыгункі ўжо няма; замест яе ўведзена „застэмпча колеёва комунікац'я аўтобусова", так, як і заміж цара ўведзена калісь саветы. Будынак вакзала стаў месцам нефармальных пленэраў нефармальных артыстаў, якія не толькі павыбівалі шыбы, але і на свой спосаб размалявалі яго (глядзі „Ніва" н-р 20 з мая г.г.). Знайшоўся аднак нейкі гаспадар, невядома на як доўга, які прыкрыў гэтае мастацтва, зацягваючы вокны фольгай, а графіці замалёўваючы фарбай. Перад перонам-эстрадай пастаўлена некалькі лавак, а на пероне, гадзіну перад пачаткам урачыстачці, фанатэхнікі Бельскага дома культуры расхвальвалі касеты і кампакты нейкага польскага „зэсполу", якога музыка раздавалася з мегафонаў. Сорак пяць мінут перад пачаткам святкаванняў прыпомнілі яны сабе, што мае быць па-беларуску.

Святкаванне пачынаецца роўна ў дзевяць гадзін вечара. З аўтамабільнай стаянкі рушае карагод са спевам „Купалінкі". Узначальвае карагод Валянціна Ласкевіч, сакратар ГП БГКТ, традыцыйны фэст-джакей большасці культурных мерапрыемстваў таварыства. Побач яе крочыць нейкі пан з барадою, як пазней аказалася, новы войт Белавежы Станіслаў Куявяк. Карагод займае месца на пероне-эстрадзе і пачынаецца афіцыёз. Голас бярэ старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі, які ўрачыста прывітаў высокіх гасцей: пасла РБ ў РП Віктара Бурскага, консулаў Міхаіла Слямнёва (Беласток) і Анатоля Бутэвіча (Гданьск), дырэктара Аддзела культуры ВУ ў Беластоку Казімежа Дэркоўскага, пасла Сяргея Плеву, сакратара Таварыства Польшча-Беларусь Баляслава Хілінскага, прадстаўніка ваяводы Славаміра Галіцкага. Старшыня прыпомніў, што Белавежа адзначае 400-годдзе і з гэтай нагоды віншаваў яе жыхароў. Сказаў ён таксама, што многія гады суарганізатарам свята з'яўлялася войт гміны Анна Байко і пры нагодзе выказаў ёй падзяку:



*Удзельнікі „Купалля" ў Белавежы (злева): пасол РБ Віктар Бурскі, дырэктар Ежы Бісяк, войт Белавежы Станіслаў Куявяк, Аляксандр Баршчэўскі і Янка Сычэўскі.*



— Дзякую Табе, Аня, вельмі сардэчна!

Пасля Янка Сычэўскі прывітаў і папрасіў узяць слова новага войта. Станіслаў Куявяк, які войтам толькі тры дні, таксама не скупіў кампліментаў усім прысутным.

У далейшым старшыня ГП паінфармаваў пра чарговыя юбілеі: 40-годдзе БГКТ і Кафедры беларускай філалогіі ў Варшаве і папрасіў узяць голас загадчыка апошняй прафесара Аляксандра Баршчэўскага.

— З радасцю сцвярджаю, што белавежанкі на працягу года не пастарэлі, а памаладзелі, — гаварыў прафесар. — Хачу сказаць таксама і тое, што паразумнелі вашы мужчыны, таму што ў мінулым годзе вас было намнога больш самотных, а сёння мужчын таксама многа як і вас, бо вядома, што такога харaства самотнага не трэба пакідаць у лесе. (...) На канферэнцыю ў Гайнаўку прыехалі нашы браты-вучоныя з Рэспублікі Беларусь. У мінулым годзе мы таксама мелі канферэнцыю і я звярнуўся да белавежанак, каб разглядаліся навокал сябе і калі пабачаць чалавека з разумнымі вачыма, але сумнага, каб ведалі, што гэта вучоны і каб ім заапекаваліся. Пасля я пытаў вучоных, ці заапекаваліся. Адказалі: „Не заапекаваліся". Мабыць таму, што вучоныя нашы ў мінулым годзе былі бедныя і не мелі ні на *ліманаду*, ні на цукеркі. Але ў гэтым годзе Калодка павысіў нам *заробкі* на 50% і таму яны грошы сёння маюць. Я толькі жартую, бо я ведаю, што белавежанкі не звяртаюць увагі на *багацтва* кашалька, а толькі на *багацтва* душы і сэрца. (...) Сёння тут цэнтр свету, сёння тут той магніт, які прыцягвае нашы сэрцы... Сёння мы ўсе браты і сёстры, сёння нас яднае беларуская песня...

Пасля Я. Сычэўскі прывітаў дырэктара Бюро п/с нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва Ежы Бісяка, які павіншаваў юбіляраў ад імя кіраўніцтва міністэрства, падзякаваў арганізатарам, а ўсім прысутным пажадаў добрага гуляння.

— Я ведаю, што сёння, у купальскую ноч шукаюць сабе папараць-кветку, каб здабыць шчасце. Я веру, што калі будзем шукаць яе разам — мы яе знойдзем. Са святам вас, бела-

# Звяз у купальскую ноч

**Што б там не казаць пра Звяз беларускай моладзі, але спосаб, у які яны пагневаліся на Беларускі саюз — не частая з'ява. Абраза выклікала павышаную актыўнасць арганізацыі, раней мала заўважальную. Асабліва відавочны феномен лідэра ЗБМ ЮРКІ АСЕННІКА, які хутка выцер слёзы крыўды і за апошняе паўгода праявіў сябе як арганізатар, спявак, заснавальнік фальклорнага калектыву, фатограф і журналіст.**

Выбар Нарвы на месца правядзення Купалля быў вельмі добры. Большасцю беларускае гмiннае мястэчка не можа пахваліцца вялікай колькасцю культурных падзей. Арганізаваны Беларускім грамадска-культурным таварыствам агляд фальклорных калектываў ды царкоўна-касцельныя фэсты, гэта ўсё чуць большыя за сямейныя ўрачыстасці.

Горш было з тэрмінам. Уначы з 6 на 7 ліпеня праводзіла сваё манументальнае гулянне ў Белавежы БГКТ. Ініцыятыву ЗБМ старэйшая беларуская арганізацыя ў Польшчы палічыла дыверсіяй.

### Як ЗБМ „Тыневічанак" запрашаў

Шкодным нарваўскае Купалле ў адзін з белавежскім час палічылі і іншыя. Рэдактар „Przeglądu Prawosławnego", напрыклад, адмовіўся даць пра яго аб'яву ў сваім часопісе. Вядомы не толькі сваім багаццем, але і малапрыемнай манерай павучаць усіх, нарваўскі бізнесмен Сяргей Мартынюк дапытаў спачатку арганізатараў на акалічнасць іх палітычных сімпатый. Хаця хлопцы вельмі стараліся папасці ў ягоныя густы і дэкларавалі сяброўства БГКТ і нялюбасць да Беларускага саюза, дапамогі так і не дасталі. У гміне таксама доўга перавapвалі, патрэбнае ім гэтае мерапрыемства ці не, пакуль рашыліся падтрымаць.

Сімптаматычным явіцца запрашэнне народнага калектыву „Тыневічанкі". Калі толькі па радыё прагучаў анонс Купалля, зараз жа зарэагавала кіраўніцтва Беларускага таварыства. Спачатку тэлефанічна сардэчна запрашалі ў Белавежу замест Нарвы, прычым адмова прыняць запрашэнне лічылася б абразай. Паколькі ЗБМаўцы некалькі разоў прыязджалі ў Тыневічы, дык бедныя жанчыны, не жадаючы нікога гнявіць, думалі, што абыдзецца без ніякага Купалля. Атрымалася якраз наадварот, калектыў быў і тут, і там. Калі Нарваўская гміна падключылася да Купалля, дык пажадала, каб і іх калектыў там паказаўся (Тыневічы ў гміне Нарва). Дазвол ехаць у Нарву далі самі кіраўнікі Галоўнага праўлення БГКТ, старшыня Янка Сычэўскі і сакратар Валянціна Ласкевіч, якія таксама асабіста наведаліся ў вёску. Як яны сказалі ў Тыневічах, маглі б і больш калектываў адпусціць у Нарву, толькі каб іх раней папрасілі.

### Свята

Як я ўжо зазначыў, месца на Купалле аказалася надзвычай трапнае. Да рэчкі, пры мосце, сышлася ці не ўся мясцовасць. Ды і прыехала шмат народу, балазе даезд у Нарву зусюль зручны. Непадалёк спецыяльна падрыхтаванай сцэны са спіскам спонсараў імпрэзы расставілі свае ларкі гандляры. Тут жа можна было купіць цукровую вату, марозіва, каляровую цацку або шар дзіцяці, а сабе нешта больш адпаведнае, як, скажам, піва. Людзі рассядаліся-разлягаліся на траве і пад народную музыку праходзіў над Нарваю сапраўдны летні пікнік. Над бясхмарным святам крыху пагрозліва віселі чорныя хмары, але, на шчасце, дождж не пайшоў.

Атмасфера імпрэзы была вельмі добрая. Яшчэ лепшыя канцэрты. Першымі, бо спяшаліся ў Белавежу, запрэзентаваліся мясцовыя „Тыневічанкі". За імі на сцэну ўвайшлі „Падляшукі" з Бельска (на здымку). Гэта было, здаецца, другое пасля Грабаркі публічнае выступленне гэтага маладога гурту, які імкнецца спяваць сапраўдны, не скажоны „саветчынай" фальклор. Чатыры галасістыя маладыя асобы далі сапраўдны паказ вакальнага мастацтва, без падмогі інструментаў.

Госцем нарваўскага Купалля быў гурт „Ліцьвіны" з Менска, ад захаплення якім узяліся і „Падляшукі". Ужо толькі дзеля „Ліцьвіноў" трэба было пабываць на гэтай імпрэзе. Старыя, за-

вежане! — закончыў віншаванні ад гасцей пасол Бурскі.

Афіцыёз уступае месца песні. Выступаюць калектывы з Беласточчыны: з Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Орлі, Краснага Сяла, Чыжоў, Агароднічак, Курашава... Прыехала таксама некалькі калектываў з Пружан. Апрача старэйшых выканаўцаў — мясцовае дзявочае трыо і гурт „Ада".

Публікі ў гэтым годзе выразна менш, чым у мінулым. Адной з прычын — дажджлівае ўдзень надвор'е, якое адпужала менш настойлівых; вечарам стаяла пагода, паявіліся нават зоркі. Думаю, што падвяла таксама інфармацыя: пра паралельнае ЗБМаўскае Купалле ў Нарве абвяшчала процьма плакатаў, а пра белавежскае не давялося мне бачыць. Байкавата гледачоў сілкавалася развесяляючымі напіткамі, пасля чаго забаўляла сябе піратэхнікай; такім спевы не перашкаджалі. А хто хацеў паслухаць, мусіў усё гэта цярпець; не ствярала гэта камфорту і выканаўцам. Ахоўнікі парадку, якіх пачаткова паявілася нямала, пазней недзе прапалі. Ды і не дзеля парадку паявіліся яны, але каб навесці балаган. Невядома мне, дзеля якой мэты кіравалі яны ўсіх, хто хацеў паслухаць роднага, у напрамку Пагарэльцаў. Каб толькі іх: ехалі нейкія датчане, у гасцініцу пэўна, ды і іх паліцэйскі фармаліст адправіў у забалаганеную вуліцу! А што гаварыць пра старэйшыя асобы, якім забаранялася пад'ехаць бліжэй, толькі пакінуць у цёмным месцы самаход і дабірацца пяшком. Мегафоны былі скіраваныя толькі ў адзін бок — туды, дзе і нельга было (асфальт), і не выпадала (газон) прысесці старэйшым. З таго боку, дзе можна было перадыхнуць, мала што было чуваць.

Наканец дадам, што нямала было знаці, бо апрача цалкам афіцыйных гасцей, былі і менш афіцыйныя: Пётр Краўчанка, Кастусь Майсеня, Міхал Іванчук. Былі таксама і зусім прыватныя асабістасці са свету бізнесу: пятнаццаты па рэйтынгу багацей у краіне Сяргей Мартынюк ці вядомы на Гайнаўшчыне Мікалай Козак.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Ой Купалле, Купалле!

Купалле — свята язычаскае, на Беласточчыне даўно забытае.

У пачатку васьмідзесятых гадоў пачалі яго ўваскрашаць студэнты, за імі БГКТ, далей ЗБМ, зараз украінцы Падляшша.

Сённяшнія Купаллі ўражваюць сваёй абсурднасцю! Удзельнічаюць у іх хрысціяне (якраз у Пятроўку), камуністы, векавыя дзядзькі і жанчыны, паліцыя, сакратары, дзеячы культуры, турысты. У час Купалля раздаюцца медалі, гавораць пра сімвалы беларускай культуры, пра трагедыю, якая нас дасцігне, калі загубім фальклор.

Варта прыгадаць пра сутнасць купальскага абраду. Святкавалі, праўда, усе, ды не ўсе пускалі вянкі. Купаллі мелі камерны абсяг. Вогнішчы і гульбішчы ладзілі толькі незамужнія дзяўчаты і хлопцы, звычайна з адная вёскі. Гэта яны спявалі, скакалі праз агонь, лавілі вянкі і варажылі. А пасля магічных практык займаліся сексам. Людзі верылі, што на Купалле могуць кахацца ўсе з усімі, бо ў гэтую ноч дзяўчаты не станавіліся цяжарнымі. Замужнія і векавыя людзі пра вянкі нават не марылі. У гэтую ноч чакаў іх не менш цікавы занятак. Жанчыны збіралі зёлкі, чаравалі, лавілі ведзьмароў і вядзьмарак, варажылі. Мужчыны абыходзілі свае нівы, гадалі пра ўраджай і будучыню ў гаспадарцы.

Тым часам на Беласточчыне найбольш пышныя Купаллі зараз спраўляюць векавыя дзеячы БГКТ. Дапамагае ім, дарэчы, шчодрая дзяржава і спонсары. Вельмі ж падабаюцца ім нашы гульбішчы. Ніхто не заўважае, што ў Белавежы пускаюць вянкі 60-гадовыя паненкі. І што іх равеснікі-кавалеры за нішто ў свеце не кінуліся б у ваду за такой здабычу. Мне запамятаўся дзядзька, які кійком вылаўліваў вянок, а пазней доўга думаў, дзе яго падзець. Гэтую чароўнасць „беларускай культуры" пазней апантана ўсе пачнуць хваліць і расслаўляць, якая гэта яна каласальная, манументальная, цудоўная! А вядома, усё ж гэта заварожвае і чаруе народ наш праваслаўны.

**Ганна Кандрацюк**

# Трыялеты

Я дружбай даўняй даражу.
Хоць часу шмат ужо мінула
І сёння гэтак сама чула
Я дружбай даўняй даражу.
З гадамі ўніз мяне прыгнула,
З трывогаю ўпярод гляджу
Ды гэтак сама сёння чула
Я дружбай даўняй даражу.

* * *

Шукаў я шчырасць у людзей,
Ціхутка у іх сэрцы стукаў.
Дарма з сардэчнай сваёй мукай
Шукаў я шчырасць у людзей.
Адна ў маім жыцці дакука,
Старэць без радасных надзей,
Ў чужыя сэрцы усё стукаць
І шукаць шчырасць у людзей

* * *

Дабру адкрыйце насцеж сэрцы,
Не дапускайце зла атруты,
Каб было ў свеце менш пакутаў
Дабру адкрыйце насцеж сэрцы.
Бываюць горкія мінуты,
Калі жыццё ў тупік упрэцца.
Каб было ў свеце менш пакутаў
Дабру адкрыйце насцеж сэрцы.

✧ ✧ ✧

Цяжка мне ужо старому
Працаваць па-маладому,
Бо упартаю нат працай
З маладымі не зраўняцца.
Мне старому без машыны
Не дабрацца да вяршыны.
Чуць узвыбленае месца
Мне здаецца Эверэстам.
Рэчка вузкая шчэ ўчора
Мне здаецца сёння морам.
Але думкамі і сэрцам
З маладымі я здаецца,
З тымі, што за сваю мову
Да канца стаяць гатовы.

**Уладзімір Сіўко,**
**г/п Любча**
**Рэспубліка Беларусь**




бытыя ўжо беларускія інструменты, такія як дуда, гучалі купальскаю ноччу па прынарвянскіх лугах нязвыкла ўрачыста. Таксама старажытныя песні і манера спеву „Ліцьвіноў", якіх не зблытаеш з ніводным іншым калектывам, варты найвышэйшай пахвалы.

Горш было з арганізацыяй мерапрыемства, перад якім быў зроблены вялікі інфармацыйны шум. Апрача сама менш тысячнага натоўпу з'ехалася ў Нарву хмара журналістаў. Але ніхто так і не пачуў нічога пра купальскую традыцыю, чаму ладзіцца такое свята, чаму гарыць вогнішча, чаму дзяўчаты кідаюць вянкі. Ніхто толкам не ведаў, што зрабіць з гледачамі дык і пайшло ўсё на самацёк.

Пусканне вянкоў атрымалася сціпленькае, вогнішча гарэла сабе побач, а народ цешыўся прыродай пад захмараным, але сухім небам на прынарвянскіх лугах.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*

# Шосты семінар „Прыбліжэння"

Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне", пачынаючы з кастрычніка 1990 г., правяло ўжо шэсць семінараў, прысвечаных палітычным, культурным і этнічным пытанням усходнееўрапейскіх народаў. Апошні семінар, які адбыўся ў днях 30 мая — 1 чэрвеня г.г. у Замасці, праходзіў пад лозунгам: „У Еўропу — супольна з краінамі Прыбалтыкі, Беларуссю і Украінай".

Дакладчыкі і ўдзельнікі дыскусіі падкрэслівалі неабходнасць каапэрацыі ў галіне гаспадарчых, турыстычных, культурных і экалагічных кантактаў, а таксама ўказвалі на значэнне прыгранічных ваяводстваў у такім супрацоўніцтве. На іх думку, такое садзеянне нясе палітычныя паслядоўнасці. У сувязі з гэтым існуе патрэба ствараць супольную сістэму каапэрацыі на тэрыторыі посткамуністычных дзяржаў. Такая супольнасць зможа падтрымаць карысныя кантакты так з Еўрапейскай Уніяй, як і з Расейскай Федэрацыяй, паколькі інтэграванне Еўропы патрабуе ад дзяржаў — кандыдатаў у макрасупольнасці — моцнага палітычнага, эканамічнага і культурнага становішча.

Праф. **Ежы Дамрош** сказаў: „Аб'ядноўваючыся дзеля выкарыстання супольных шанцаў, трэба зважаць не толькі на інтарэсы, але і на такія каштоўнасці як: праніканне культур на ўсёй тэрыторыі ад Буга і Нёмана па Дняпро, ідэі экуменізму, свядомасць супольнай гісторыі. Калі ў далейшым будзе захоўвацца падзел на „сваіх" і „чужых", тады працэс інтэграцыі ў еўрапейскім маштабе будзе мець больш фармальны, чым фактычны характар". Прамоўца палічыў мэтазгодным стварыць **Незалежную Еўрапейскую Супольнасць**, якой восю былі б Варшава і Кіеў, а да якой па чарзе далучыліся б краіны Прыбалтыкі, Вышаградскай групы, Беларусь, а пасля Румынія і Балгарыя. У ходзе інтэграцыі можна было б супольна з Расеяй, на раўнапраўных прынцыпах, сфармаваць **Аб'яднаную Еўропу** супольна з **заходнімі краінамі** пры захаванні нацыянальных і рэгіянальных асаблівасцей.

Ажыццяўленню этай задумы перашкаджаць будзе міф „заходняга дабрабыту і свабоды", а таксама адсутнасць веры ва ўласныя сілы. Пачаць усё трэба з інтэнсіфікацыі супрацоўніцтва паміж Польшчай і Украінай, паколькі вынікі гэтага садзеяння будуць уплываць на формы супрацоўніцтва народаў у будучым. Праграма супрацоўніцтва народаў не павінна абмяжоўвацца толькі да ўрадава-парламенцкіх дачыненняў, але ўключаць таксама самаўрадавыя і грамадскія пытанні. Горад Замасць разумее значэнне прыгранічнага супрацоўніцтва і таму можа стаць платформай інтэграцыі.

Удзельнікі семінара адобрылі прапанову, каб да часу аб'яднання з Заходняй Еўропай больш увагі адводзіць суседзям з Усходу, паколькі — хаця раздзяляе нас мінулае, але аб'ядноўвае будучае — цяперашні час вырашыць аб гэтым ці звяжамся з мінулым, ці будучым.

У семінары прымалі ўдзел прадстаўнікі навуковых цэнтраў Беларусі і Украіны.

**Міхал Занчэўскі**

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры)*

Гаворачы пра далёкія пешыя падарожжы маіх вясковых продкаў, варта ўспомніць пра яшчэ адно, але ўжо не рэлігійнае, а так бы мовіць, дзелавое, чалабітнае падарожжа.

Быў яшчэ адзін у нас дзівак, які пехатой аж у Пецярбург хадзіў. Называўся гэты стаер Прахвілій Яканюк. Служыў ён салдатам у царскай арміі. Ваяваў дзесьці на Балканах. Быў там паранены, памарожаны і з гэтага повадку, вярнуўшыся інвалідам дадому, атрымоўваў нейкую пенсію ад дзяржавы. Знайшліся, аднак, такія людзі ў вёсцы, якія пазайздросцілі яму і напісалі ў адпаведныя інстанцыі данос, што Прахвілій Яканюк мае сваю гаспадарку і можа ўтрымоўвацца з яе. Пенсію адабралі. Калі пакрыўджанаму ветэрану не ўдалося вярнуць адабраную пенсію пры дапамозе мясцовых улад, ён патэпаў са сваёй скаргай у імперскую сталіцу Пецярбург.

Дайшоў, адшукаў там свайго камандзіра і той дапамог яму вярнуць страчаную пенсію, толькі меншую, чым раней.

Даносчыкаў на Прахвілія было двух. Жылі яны на канцы вёскі, крыху на водшыбе ад яе. Аднойчы ў летні жаркі дзень, калі дарослыя людзі былі ў полі, у даносчыкаў раптоўна ўзнік пажар, які хутка разбушаваўся і стравіў датла пакаленнямі нажытую маёмасць. І хоць афіцыйна прычын гэтага страшэннага пажару не ўстаноўлена, але паціхоньку ўсе гаварылі, што гэта работа Прахвілія — помста за пенсію. І пачалі людзі пабойвацца Прахвілія, стараліся ўнікаць яго.

А па-мойму, яны больш павінны былі баяцца даносчыкаў, калі напэўна былі такія...

А цяпер, з прабачэннем продкаў нашых, давайце прыглянемся яшчэ адной дзялянцы іх колішняга жыцця, а менавіта — сексуальнай. Як жа ж выглядала і ці ўвогуле выглядала ў іх яна?

Канешне ж і добра выглядала, і някепска мелася ў іх яна. І вельмі добра, бо не будзь яе, не было б цяпер і нас з вамі. Трэба тут адкрыта сказаць, што набожныя продкі нашы любілі таксама і добра выпіць, і салідна пасексаваць, але называўся ў іх працэс гэты не чужым і незразумелым словам „секс”, а больш канкрэтным, свойскім і мілагучным словам, не тут будзь сказана яно. А месцамі іх секс — я б сказаў — мусіў быць проста магутны, калі ў многіх сем'ях па дзесяць—дванаццаць і болей дзяцей нараджалася. Як, здаецца, сіл і часу ім на гэта хапала? І экалагічна быў чысты, згодны з хрысціянскімі вартасцямі. Дзяцей стваралі толькі і выключна традыцыйным спосабам, а не пры дапамозе нейкіх там „прабірак”, як часта ў нас цяпер.

А колькі ж гарачых гутарак на сексуальныя тэмы было ў мужчынскіх кампаніях тады, колькі цеплыні і ласкі ўкладалася ў іх, і колькі сімпатычных назваў мела гэтая жаночая сексуальная штучка? Называлі яе і грыбочкам, і маслючком, і птушачкай, і зязюлькай, і качумошкай, і многімі іншымі ласкальна-мілымі імёнамі.

Запомнілася мне яшчэ з дзяцінства такая сцэнка. Падпіўшая мужчынская кампанія, а ў ёй жанаты ўжо мужчына расказвае: „Я, хлопцы, гляну, а ў яе яна як бубачка, здаецца, каб мела вушка, то проста чэрпаў бы ёю вадзічку і піў”. Ці ж можна яшчэ прыгажэй выказацца? І расказчык пры гэтым моцна хваліцца, і ўся кампанія проста кіпіць.

Сама жанчына ніколі не была ў такой вялікай пашане ў іх, як гэты глыбока схаваны на перыферыі яе цела прыдатак. Проста панаваў нейкі культ гэтай грэшнай штучкі. Каб жанчына хаця ўпалове цанілася так, як гэтая невялікая штучка яе, то трэба было б моцна зайздросціць жанчынам.

А вось яшчэ адзін прыклад. Сексуальна таленавіты жыхар маёй вёскі быў прызваны пастаяць „за веру, царя и отечество”. За нейкі час маладая жонка атрымала ад яго ліст. Відаць, сама была мала або і зусім неадукаванай, таму з пісьмом адразу падалася да адукаванага суседа.

Калі думаеце, што малады царскі салдат прасіў у гэтым лісце жонку прыслаць яму пасылку з ежай, бо, падобна, салдат у царскай арміі кепска кармілі, то моцна памыляецеся. Бравы наш ваяр не прасіў, а проста благаў жонку прыслаць яму хаця б некалькі валаскоў з яе салодка-грэшнага месца, інакш кажучы, роднай качумошкі.

Ці ж не рамантыкамі былі нашы вясковыя продкі?..

З другога ж боку, гэта тлумачыла б сакрэт непераможнасці царскай арміі. Часта не воінскім уменнем, добрай зброяй і ўмелай арганізацыяй, а злосцю, выкліканай між іншым і сексуальным голадам, яна ўсё крышыла перад сабой.

Так больш-менш выглядала тэарэтычная частка сексу ў нашых продкаў. Практычная яе частка была крыху іншай. Лічылася яна і сарамлівай і чамусьці крыху грэшнай, значыць не напаказ. І таму зводзілася, як правіла, у глыбокае падполле.

Не карысталіся павагай і пашанай у нас мужчыны-бабнікі, а ўжо жанчын так званых лёгкіх паводзін і зусім не пераносілі. Пра іх гаварылі, як пра нейкую заразу і вялікіх грэшніц, ад якіх трэба трымацца як найдалей.

Старэйшыя людзі не цярпелі і тэарэтычнай часткі сексу. Лічылі яны моцна непрыстойнымі і грэшнымі і гутаркі на сексуальныя тэмы. Сексуальных хвалюноў і грубіянаў яны злосна перапынялі, напрыклад, у такі спосаб: „Перастань, бессаромнік, граху не баішся!” і дадавалі са злосцю: „Хто хваліцца коньмі, валамі, а ён тым, што між нагамі!”

І расказчык хутка сціхаў вінавата, бо ці ж устаіш перад такой слоўнай батарэяй?..

Апошнюю цікавую гутарку мужыкоў на сексуальную тэму пачуў я дзесьці ў перыяд ранніх штучных спадарожнікаў і ў сувязі з імі.

Вестка пра спадарожнікі надта зацікавіла іх і яны дыскутавалі аб іх з вялікім азартам. Вохкалі і ахкалі, перасыпаючы іх сакавітымі матамі, над сілай чалавечага розуму, які выдумаў такія апараты, якія ў космас лятаюць, а хутка на Месяц і іншыя планеты паляцяць.

Калі дыскусія ўжо на добра разгарэлася і, можна сказаць, дайшла да самага апагея, адзін з дасюль маўклівых кампаньёнаў па-філасофску падсумаваў: „І ўсё ж толькі, хлопцы, разумней аб бабскай к... нічога дасюль не прыдумана”. Усе громка зарагаталі і ахвотна згадзіліся з ім. Спадарожнікі і чалавечы розум адразу перасталі цікавіць іх. Зноў распачалася вясёлая і гарачая гутарка на адвечна жывую і актуальную тэму. Адразу відаць было, што гэта іх тэма — дыскутавалі высокапрафесіянальна, з усімі дэталямі ды параметрамі...

*(працяг будзе)*

# III Festiwal Mniejszości Narodowych

Już po raz trzeci mamy przyjemność zaprosić Państwa na Festiwal Mniejszości Narodowych, który odbędzie się w Gdańsku w dniach 13-15 września 1996 roku. Będzie to największa w 1996 r. tego typu impreza prezentująca kultury mniejszości. Nie powinno tam zabraknąć osób, które identyfikują się z kulturą swojego narodu i którym na sercu leży jej trwanie.

W Polsce mieszka około 650 tys. Niemców, 450 tys. Białorusinów, 300 tys. Ukraińców, 15 tys. Litwinów, 13 tys. Romów, 6 tys. Greków, 5 tys. Żydów, 4 tys. Słowaków, 2 tys. Macedończyków, 2 tys. Czechów, a także Ormianie, Tatarzy, Karaimowie i Staroobrzędowcy. Łącznie mniejszości narodowe liczą ok. 1,5 mln, co stanowi 4% populacji (dane uzyskane od organizacji mniejszości narodowych).

Mniejszości narodowe — ich historia, tradycja, dorobek kulturalny oraz problemy, z którymi się borykają są zupełnie obce przeciętnemu Polakowi, a funkcjonujące wyobrażenia o mniejszościach opierają się głównie na stereotypach.

Asymilacja, próby dyskryminacji, przedmiotowe traktowanie dla osiągnięcia korzyści politycznych oraz problemy materialne to główne zagrożenia dla mniejszości narodowych zamieszkujących Polskę i kraje Europy Środkowo-Wschodniej. Niedostrzeganie tych problemów prowadzi często do konfliktów na tle narodowościowym. Demony nienawiści i strachu budzą się, gdy rozum śpi. Brak wiedzy o problemach, kulturze i tradycji mniejszości narodowych prowadzi do lęku przed obcym i nieznanym; 60% Polaków nie chciałoby mieć za sąsiada Ukraińca i aż 48% wyraża swoją niechęć do Cyganów [za: *Narody i stereotypy* D. Sosnowska, Kraków 1995 i raport CBOS 1994).

Jednocześnie poziom świadomości obywatelskiej środowisk mniejszości jest niski. Środowiska te często zamykają się w swoich narodowych gettach, organizacje mniejszości narodowych prawie w ogóle nie uczestniczą w inicjatywach sektora pozarządowego, podczas gdy większe otwarcie na zewnątrz spowoduje ich aktywną obecność w obywatelskiej społeczności lokalnej. Aby to osiągnąć, należy propagować wśród mniejszości narodowych idee sektora pozarządowego, w którym wszyscy, także mniejszości narodowe, mają możliwość zaspokajania swoich potrzeb i wpływania na otaczającą ich rzeczywistość.

Popularyzacja kultury mniejszości i integracja oraz podniesienie świadomości obywatelskiej w środowiskach mniejszości to podstawowe założenia III Festiwalu Mniejszości Narodowych.

Uczestnikami III Festiwalu będą:

— środowiska mniejszości narodowych w Polsce; przewiduje się udział ok. 80 liderów z 30 organizacji mniejszościowych, 24 zespołów (260 artystów) i ok. 600 widzów reprezentujących mniejszości z całej Polski,

— mieszkańcy Gdańska, którzy będą mogli uczestniczyć w głównej imprezie Festiwalu tj. Koncercie Festynie, odbywającym się w centrum Starego Mista (ok. 15 tys. osób).

Program Festiwalu (główne imprezy):

**Koncert rockowy** — prezentacja młodej sceny rockowej i estradowej mniejszości połączona z całonocną zabawą; przewidziany jest udział młodzieży z całej Polski. Impreza otwarta.

**Koncert muzyki ludowej** na Wyspie Spichrzów — prezentacja najciekawszych akustycznych zespołów ludowych przy ognisku, w scenerii Starego Miasta.

**Koncert Festyn** — plenerowy koncert folklorystyczny w centrum Starego Miasta w Gdańsku na Długim Targu, prezentacja zespołów mniejszości (głównie tanecznych, chórów, orkiestr).

**Koncerty folkowe w klubach muzycznych** Starego Miasta — cztery koncerty akustycznych zespołów mniejszości uczestniczących w Festiwalu.

**Konferencja *„Prawa mniejszości narodowych”*** — celem konferencji jest prezentacja stanu przestrzegania praw mniejszości w Polsce.

**Seminarium *„Finansowanie przedsięwzięć kulturalnych mniejszości narodowych”*** — celem seminarium jest zapoznanie działaczy mniejszości narodowych ze strukturą finansowania organizacji pozarządowych, szczególnie mniejszościowych.

**Pokazy filmów** o tematyce mniejszościowej wyprodukowanych przez TVP.

**Wystawy:**

***„Uratowanie Żydów duńskich”*** — wystawa dokumentująca uratowanie diaspory żydowskiej w Danii w czasie II wojny światowej.

***„Dziewczęta z Galicji”*** — dokumentująca galicyjską emigrację rolną w Danii przed I wojną światową, historia ruchu Polonii w Danii.

**Komitet Organizacyjny** — Związek Ukraińskiej Młodzieży Niezależnej, Białoruskie Towarzystwo Kulturalne „CHATKA”, Związek Młodzieży Niemieckiej w Gdańsku, Związek Młodzieży Mniejszości Niemieckiej w RP — Koło Gdańsk, Fundacja Rozwoju Kultury „KONTAKT” i Duński Instytut Kultury.

Adres do korespondencji: III Festiwal Mniejszości Narodowych, Biuro Organizacyjne, 80–828 Gdańsk, ul. Długi Targ 8/10. Telefon: (0-58) 31-58-78.

# Бібліяграфічны куточак

Чытачы нашага штотыднёвіка, зацікаўленыя кніжкамі, у якіх закранаюцца беларускія тэмы, маюць магчымасць папоўніць свае дамашнія кнігазборы вось такімі выданнямі (падаем паводле каталога № 61 антыкварыята ў Познані):

Poz. 7 — *Argumenty do dialogu polsko-białoruskiego*, Warszawa 1986. Cena 15 zł.

Poz. 236 — Podlaski K., *Białorusini — Litwini — Ukraińcy. Nasi wrogowie czy bracia?* B. m. 1984. C. 15 zł.

Poz. 245 — Prawdzic-Szlaski J., *Nowogródczyzna w walce 1940—1945.* Londyn 1976. C. 25 zł.

Poz. 520 — *Hadawik Biełaruskaha Nawukowaha Tawarystwa*, Wilnia, Rok 1933, Knižka I. C. 20 zł.

Poz. 669 — *Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej, Opracowany na podstawie wyników pierwszego powszechnego spisu ludności z dn. 30 września 1921 r. i innych źródeł urzędowych, T. V, Województwo białostockie*, W-wa 1924. C. 60 zł.

Poz. 754 — Bronowski S., *Państwo polskie a kwestja białoruska*, W-wa b. r. C. 20 zł.

Poz. 761 — Czekanowski J., *Stosunki narodowościowo-wyznaniowe na Litwie i Rusi w świetle źródeł oficjalnych, z czterema mapami*, Lwów 1918. C. 30 zł.

Poz. 771 — Dynowski W., *Sztuka ludowa wileńszczyzny i nowogródczyzny*, Wilno 1935. C. 15 zł.

Poz. 784 — Horoszkiewicz R., *Tradycje ziemi pińskiej*, 1939. C. 25 zł.

Poz. 809 — Nagórski T., *Przemysł i handel w wileńskiem i nowogródzkiem*, Wilno 1934. C. 10 zł.

Poz. 828 — Rehman A., *Kotlina Prypeci i błota pińskie*, W-wa 1886. C. 25 zł.

Poz. 836 — Srokowski K., *Sprawa narodowościowa na Kresach Wschodnich*, Kraków 1924. C. 18 zł (toż samo — poz. 837. C. 15 zł).

Poz. 862 — Żukowski W., *Polacy i Białorusini*, Wilno 1907. C. 15 zł.

Заказы можна накіроўваць на адрас: Antykwariat im. J. K. Żupańskiego, Stary Rynek 53/54, 61-772 Poznań.

**Пётр Байко**

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**21 ліпеня**

1899 г. — нар. Эрнст Хемінгуэй, амерыканскі пісьменнік.

1954 г. — Францыя і В'етнам папісалі перамір'е, раздзяляючы краіну па 17-му мерыдыяну.

1969 г. — а 3.56 сярэднееўрапейскага часу Ніл Армстранг упершыню ў гісторыі чалавецтва ступіў на паверхню Месяца.

**22 ліпеня**

1922 г. — у Берліне пачало працу савецкае пасольства.

1944 г. — аб'яўленне маніфеста Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення.

1972 г. — савецкая касмічная станцыя *Венера-8* прызямлілася на Венеры і на працягу пяцідзесяці мінут перадавала інфармацыі на Зямлю.

1990 г. — Народная палата ГДР прыняла новы адміністрацыйны падзел краіны: замест чатырнаццаці акругаў паўстала пяць ландаў.

**23 ліпеня**

1588 г. — англійскі флот перамог іспанскую „непераможную" Армаду.

1888 г. — нар. Раймонд Чэндлер, амерыканскі пісьменнік.

1907 г. — нар. пісьменнік Эдуард Самуйлёнак.

1983 г. — выбух крывавых сутычак між сінгальцамі і тамідамі ў Шры Ланцы.

**24 ліпеня**

1783 г. — нар. Сіман Балівар, паўднёваамерыканскі змагар за незалежнасць.

1802 г. — нар. Аляксандр Дзюма старэйшы, французскі пісьменнік.

**25 ліпеня**

1139 г. — пасля перамогі над арабамі Альфонса I каранауецца на караля Партугаліі.

1261 г. — Міхаіл VIII Палеолаг здабывае Канстанцінопаль, канчаючы існаванне Лацінскага царства заснаванага крыжовымі рыцарамі.

1934 г. — падчас нацысцкага перавароту ў Аўстрыі звергнуты і забіты канцлер Дольфус.

1969 г. — памёр Вітальд Гамбровіч, польскі пісьменнік.

1978 г. — у ЗША нарадзілася першае дзіця „з прабіркі".

1984 г. — памёр пісьменнік Уладзімір Караткевіч.

**26 ліпеня**

1856 г. — нар. Джордж Шоў, ірландскі пісьменнік.

1875 г. — нар. Карл Юнг, швейцарскі псіхааналітык.

1944 г. — нар. Майк Джэгер, англійскі рок-музыкант.

1956 г. — нацыяналізацыя Егіптам Суэцкага канала, якая прывяла да вайны і цяжкага міжнароднага крызісу.

1963 г. — землятрус у Скоп'е (Македонія); горад амаль поўнасцю разбураны.

1971 г. — у ЗША стартаваў *Apollo-15* з *лунамабілем* на барту.

**27 ліпеня**

1824 г. — нар. Аляксандр Дзюма малодшы, французскі пісьменнік.

1921 г. — канадцы Бантынг і Бэст упершыню выізаліравалі інсулін, лек ад дыябэту.

1929 г. — у Жэневе падпісана канвенцыю аб ваеннапалонных.

1944 г. — Савецкая армія здабыла Беласток.

1953 г. — перамір'е ў Панмунчжоне закончыла вайну ў Карэі.

1990 г. — ВС Беларусі прыняў дэкларацыю незалежнасці. **(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне такі сон: быццам я ў сваёй вёсцы, дзе я раней жыла (я перасялілася ў горад), да мяне прыйшла суседка, папрасіць проса. Кажу ёй: хадзем да нас у клуню, так каб мой тата не бачыў — там вісіць мяшочак з просам, то табе адсыплю. Яна мне за тое проса дала шмат пражы, чырвонае, якраз мне на ажурную кофту. Пасля быццам у тае суседкі нейкае застолле, здаецца, вяселле. Маю туды ісці, але бачу, што я не надта важна апранутая, і падарунка маладым у мяне няма. Перадумала, і не пайшла. Іду дахаты (тры дамы ад суседчынай), а там, дзе раней быў мой дом, вялікі блёк, з ліфтам. Я іду са сваім мужам-нябожчыкам. Уваходжу ў ліфт, каб падняцца ў маю кватэру, а муж пайшоў па лесвіцы. Чакаю на першым паверсе, а яго няма. Іду яго шукаць — а тая лесвіца вельмі непрыгожая, прыступкі пакрышаныя, мой муж не даў рады ісці, пабіў сабе нос, падаючы. Думаю: які ж ён недарэка: і на ліфце баіцца падняцца, і нават па лесвіцы не ўмее куды трэба зайсці.

Баюся, што ў мае суседкі можа быць нейкая бяда — кепска ў іх ладзіцца ў сям'і з дзецьмі, муж п'е, пасвараны ён з маімі сынамі (калісьці мой старэйшы сын заступіўся за бацьку і пабіў суседчынага мужа, які па п'янцы чапляўся).

**Зося**

Даражэнькая Зося! Не хвалюйся за суседку! Сон хутчэй гаворыць, што гэта ў цябе будуць нейкія праблемы. І нават справа не ў тым вяселлі, на якое ты не пайшла, бо наогул вяселле абазначае сварку (і было сапраўды ў суседкі), а ў чым іншым. Сама паглядзі, якая была тая лесвіца, па якой хацеў падняцца да цябе муж: непрыгожая, з пакрышанымі прыступкамі, адным словам, непрыгодная яна, каб карыстацца ёю! У выніку гэтага твой муж паваліўся і пабіў сабе нос. Кепскі сон, хаця і сніўся табе муж-нябожчык. Вазьмі сябе ў рукі, бо трэба будзе быць моцнай.

**Астрон**

# Віраванка з „Э"




1. мусульманская святыня, 2. сталіца Калмыкіі, 3. жанчына з рыбіным хвастом, 4. непрытомна-раз'юшаны стан, 5. рэгіён на ўсходзе Францыі, 6. узор, стандарт, 7. невялікі рэстаран з эстрадай, 8. тайна, 9. французскі імпрэсіяніст, 10. Стыві, амерыканскі спявак, 11. англійская выспа ля берагоў Францыі між Нармандыяй і Брэтаніяй. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 22 н-ра:**

**Гарызантальна:** ноздра, Ніксан, каліва, лешч, кара, эпіграфіка, рука, дуіпа, размах, манета, артыст.

**Вертыкальна:** Нобіле, рака, „Ніва", Анкара, лібералізм, шчэпка, какаду, Рувума, шашыст, рата, Ахар.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.



# ПАРНАСІК

**Зямля**

Зямля, мы цябе абрабляем
І багацце маем.
Ты нас гадуеш
А таксама пільнуеш.
Любіш гаспадара дбайнага,
Працавітага і слаўнага:
Тады даеш плён вялікі —
Не пералічыць на лікі.
Зямля — глеба,
Гэта вялікая патрэба.
Патрабуе дагляду, апекі
Здаўна, адвеку.
Трэба араць дакладна,
Будзе карысна і ладна.
Таксама і іншыя работы,
Хаця многа турботы.
Зямля любіць угнаенне
І мінеральнае — асобае асваенне,
Каб часам не перасаліць
Трэба пагоду і тэрмін улічыць.
Зямля гліністая —
Праца на ёй мазалістая.
Цяжка яе абрабляць,
Будзем часта злаваць.
Калі летка сухое
Высахне ўсё, нават ліхое.
Але калі адпаведная пагода,
Будзе плён і добрая парода.
Зямля-чарназём
Заўсёды дасць добры плён.
А на пясочку,
Як кажуць, хлеба па кусочку.
А дзе шчыры пясок,
Там расце марны лясок
І гэта на нашу карысць;
Зямля варта, каб паклоны ёй біць.
Яна любіць добрага гаспадара
І з прызванага двара.
Лодыра не любіць
І не прыгалубіць.
Зямлю нельга марнаваць,
А шчыра пільнаваць.
Яна не церпіць балагану, мазутаў —
Для яе гэта пакуты.
У зямлі найгоршы вораг — чалавек,
І яшчэ ў дваццаты век,
Бо забруджвае яе нетры.
І нячыстыя ветры
Смуродзяць свет
Ад шматлікіх лет.
Зямля наша, гэта багацце, жыццё
І духовае адкрыццё.
Зямельку трэба шанаваць; і то пільна!
Будзем жыць мірна.
Яна нас гадуе
І часу не марнуе.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Закаханыя

Бажэна аўдавела ў трыццаць два гады — муж паехаў у Амерыку і разбіўся ў аўтамабільнай аварыі. Старэйшаму сыну Іванскіх было дзесяць, малодшаму — два гады. Амаль усе грошы, што пакінуў муж, Бажэна аддала на прывоз і пахаванне цела.

Такую бяду Бажэна адхварэла, страшна пахудзела, проста высахла. Са старэйшым сынам, Янушам, які таксама вельмі перажыў смерць бацькі, часта хадзіла на магілу Дарка.

Праходзілі гады, Бажэна трывала ў горы і смутку. Калі малодшаму сыну споўнілася дзесяць гадоў, пазнаёмілася з Меткам. Пасля працы пахадзіла па крамах, пайшла на аўтобусны прыпынак. У аўтобусе было людна, але Бажэна заўважыла шасцідзесяцігадовага мужчыну, які стаяў побач. Калі выходзіла з салона, выйшаў і той мужчына. Сказаў чаму: вельмі ж яму спадабалася Бажэна. У таго чалавека былі такія добрыя блакітныя вочы, і Бажэна запрасіла яго на чай дадому. Сыноў у кватэры не было. Метак пацалаваў Бажэну, і яна без слова пайшла з ім у пасцель.

З тае пары сустракаліся штодзень. Калі пра яго новае каханне даведаліся Меткава жонка і ягоныя дарослыя ўжо дзеці ды ўнукі, прыйшлі на сур'ёзную размову да Бажэны.

— Я яму не дам разводу! — крычала жонка. — Мы разам нажылі ўсё, а мелі толькі адну лыжку! Не будзе ніякага падзелу маёмасці! Не дачакаешся!

— Не трэба мне ваш маёнтак, — адказала Бажэна.

Метак жыў з сям'ёй, але прыгаварваў жонцы, што Бажэна ўсё лепш робіць.

— То няхай цябе корміць! — злавалася Анеля.

Бажэніна сям'я таксама вельмі перажыла яе раман. Бацькі ўсхвалявaліся, загадалі больш ніколі іх не наведваць. Старэйшы сын Януш таксама быў супраць, але з малодшым Метак меў добры кантакт — хлопец патрабаваў мужчынскага сяброўства. А таксама і мужчынскіх таямніц, і спраў; штомесяц Метак даваў Ярку грошы на дробныя „мужчынскія" выдаткі.

На лаянкі родных, што водзіцца з абы-кім, Бажэна адказвала:

— Мы закаханыя. Вы яшчэ пабачыце, загуляеце на нашым вяселлі!

Аж Метак пакаяўся, пагадзіўся з сям'ёй, вярнуўся да жонкі. Паўгода не сустракаўся з каханкай, але выпадкова сустрэўшы яе ў краме, нанач дамоў не вярнуўся. Анеля прыбегла адразу да Бажэны — ведала, дзе шукаць мужа. Метак рашыў купіць дом у іншым горадзе. Грошай яму хопіць на такую задуму. Кажа:

— Ну і што, калі мая старая не дасць нам разводу?! І так буду з Бажэнай. Выедзем адсюль, як толькі ўдасца мне аформіць справы з працай. Мы без сябе жыць ужо не можам.

**АЎРОРА**


Ніва

„Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 421-033.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, ЯўгенМіранoвіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Эпіграмы з антыподаў

**Знакаміты паэт у нас**

Залез высока на „Парнас”,
сядзіць там кожны тыдзень
і ў Каляды, і ў Вялікдзень
ды цікуе з тае горкі,
каб узабрацца і на „Зорку”.

**Сямён Шаўцоў**
**Аўстралія**

## Аднойчы і заўжды

Перабягае — фу ты, чорт —
Мне праз дарогу чорны кот.
Назад я зразу паглядзеў:
Як той анёл — дзяўчына йдзе.

Я ёй з усмешкаю кажу:
— Праходзьце першымі, прашу. —
І прыгажуня мне з усмешкай:
— Праходзьце вы, я не спяшу...

Узнікла спрэчка ў нас, але
Размова мілая — далей...

Так часта мы з тае пары
З ёй прадаўжаем гаварыць.

Даем мы рэдка спрэчкам ход.
І так ідзём каторы год
З ёй разам. І смяёмся часам:
— Нас пазнаёміў чорны кот!

**Станіслаў Валодзька**



*Перадрук з „Вожыка”*

## Замуж за іншаземца

Люблю чытаць газеты. Аб’явы розныя, праграму тэлебачання, некралогі...

Бяру аднойчы газету — аб’ява: „Немец, 40 гадоў, жадае пазнаёміцца з беларускай да 35 гадоў, магчыма для стварэння сямейнага саюзу”. І тэлефончык.

Прачытала — і ў той жа дзень вырашыла пазваніць. Чаму б і не? 35 мне яшчэ не цюкнула, а пры добрым макіяжы магу і „трыццаткай” прыкінуцца... Калі пашанцуе, развядуся я са сваім целяпнём, ад якога адны толькі праблемы, — і ў Мюнхен паеду.

Званю. Жаночы голас ветліва адказвае:

— Прыём канкурэнтак — з 18-ці да 20-ці.

Во як! Конкурс! Ну нічога! А раптам пашанцуе?..

Вы ведаеце, чаму іншаземцы гэтак нашых жанчын любяць? З-за таго, што цярплівасць у іх знаходзіцца на сусветным узроўні! Вось скажыце, ці вытрымае хоць адна немка, італьянка ці француженка трохгадзіннае выстойванне ў чарзе? А бясконцае павышэнне цэн? А ці зможа, скажам, шведка праехаць у аўтобусе ў гадзіну пік і пры гэтым захаваць усе гузікі, а ў сумачцы — кашалёк?

Дык вось. У прызначаны час іду па праспекце. Во і тая самая гасцініца — „Утульнасць”. А ля дзвярэй ужо з добры дзесятак канкурэнтак — стаяць, чакаюць. Як кажуць, ад васемнаццаці — і болей. Ну, мне да чэргаў не прывыкаць. Стаю, канкурэнтак разглядаю.

Нарэшце зайшла. Жанчына нейкая на мяне — зірк-зірк.

— А дзе ж немец? — пытаю.

— Едзьце вось па гэтым адрасе, — падае паперку і крытычна мяне мерае вокам. — Там вас будзе чакаць тутэйшы кліент.

— Што? — не зразумела я спачатку. — Мне патрэбен немец, а не нейкі там кліент.

— Гы-гы-гы! — зарагатала раптам жанчына. — Калі хочаш зарабіць, дык ідзі хутчэй.

— За-а-а-рабіць?! — нарэшце да мяне дайшло, куды я трапіла. — Ты! Сутэнёрка праклятая! А хто аб’яву ў газету даваў?

— Лягчэй на паваротах, красуня! — ажно адскочыла ўбок сутэнёрка. — Гэта камерцыйная тайна.

...Але прычоску гэтай „мадам” я трохі сапсавала. Дадому не ішла, а бегла. Гэта ж да чаго жанчын давялі: замест сапраўдных іншаземцаў нашых кліентаў падсоўваюць. Каб яшчэ 1 красавіка, то можна было б зразумець, а то...

**Зінаіда Вешка**

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Падчас лівня ўбягае ў краму чалавек і пытае:

— Выбачайце, не забыў хто ў вас парасон?

— А як жа! А як ён выглядае?

— Усё роўна; абы быў!

* * *

— Чаму не п’еш гэтага лякарства? — пытае жонка мужа.

— Бо вельмі нядобрае.

— Дык пі і думай, што гэта піва.

— А не магу піць піва і ўяўляць, што гэта лякарства?

* * *

— Ад калі гадуеш такую доўгую бараду?

— З таго дня, калі жонка вырашыла купляць мне гальштукі.

* * *

Размова па тэлефоне:

— Добры дзень. Ці твая жонка дома?

— Не; на аўкцыёне.

— А колькі хочаш за яе ўзяць?

* * *

Пасля шлюбнай ночы маладуха з жахам глядзіць на свайго мужа:

— Ах мой ты сакаліку! І гэта ўсё, што табе асталося?!

* * *

— Колькі ўжо разоў прасіў я цябе пацалунку; ці ты з мармуру? — папракае муж жонку.

— Не, гэта хутчэй ты паралізаваны.

* * *

— Мой нарачоны апавядае ўсім сваім сябрам, што жэніцца з найпрыгажэйшай дзяўчынай у горадзе.

— А я не гаварыла, што ён з табою парве!

* * *

— Чаму ты развяла так многа грошай? — нервуецца муж.

— Уяві сабе, што знайшла краму з неверагодна нізкімі цэнамі!

* * *

— Гаспадара няма дома, — адказвае ў тэлефон гаспадынька.

— Выехаў на адпачынак?

— Хіба не, бо выехаў разам з жонкай.

* * *

— Які цудоўны абед! — хваліць госць гаспадыню. — Рэдка мне здараецца такі есці.

— Нам таксама, — адказвае гаспадар.

* * *

— У вашай бібліятэцы столькі кніжак! — захапляецца госць дома. — Можа маеце нейкую кніжку з гумарам?

— Маю; ашчадную кніжку.

## Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Калі чытаеш твае парады, так і здаецца, што ты — баба. Спагадаеш заўсёды жанчынам, а мужчына ў цябе не варты нічагуткі.

Мая жонка заўсёды пераконвала мяне, што адзін другому павінен верыць. Калі чалавек не верыць свайму партнёру — тады няма чаго разам жыць. Яна часта выязджала ў даволі доўгія камандзіроўкі, а нават і на адпачынак любіла паехаць летам без мяне. І я, дурань, верыў ёй, што яна павінна — пасля такой цяжкай працы ў бюро — адпачыць у цішыні і без нікога. Я ў той час, калі яна там „адпачывала”, займаўся дзецьмі і домам. Рабіў я гэта з такой абавязковасцю, быццам бы я ніколі ў жыцці не працаваў, а працавала толькі мая жонка.

Во што значыць злавіць быка за рогі! Ну, але верыў я ёй да пары да часу. Паехала ў камандзіроўку ў Варшаву. Вечарам звоніць мне. Мяў-мяў, мяўмяў, а я побач чую мужчынскі голас. Пытаю, дзе яна, а яна кажа, што ў гатэлі. Ну, і не гаворыць, вядома, у якім.

Мяне ўзарвала. Ах, так, думаю, дык я табе дакажу. Пазваніў я ў тую Варшаву — у адзін гатэль, другі і трэці — і што? Думаеш, не знайшоў?! Я не гультай. Дзяцей разбудзіў рана, завёз іх да маёй мамы, каб папільнавала. Сам узяў курс на Варшаву. Пакуль мая любая ўстала, я быў ужо ў яе гатэлі. А як жа! Спалі сабе найспакайней у свеце, не прадчуваючы навальніцы. Ён аказаўся неспадзявана маім знаёмым па службе.

Дарагое Сэрцайка! У той момант я б ахвотна праваліўся скрозь зямлю. Нягледзячы на ўсю складанасць становішча, я спачатку хацеў захаваць твар. Яна, аднак, паводзіла сябе настолькі нахабна, што я не вытрымаў і стукнуў яе па твары. Яна скочыла на мяне, як тыгрыца, і пачала лупіць мяне кулакамі. Чалавеку, з якім мая жонка правяла ноч, было вельмі няёмка.

Сталася, аднак, як мела быць. І такім чынам лопнула мая вера ў людскую чэснасць, як мыльны пузыр. Выскачыў я з таго гатэля, як ашпараны, сеў у машыну і вярнуўся дахаты. Маці свaёй не сказаў ані слова. Ну, не мог я гэтага зрабіць старой кабеце. Знервавалася б, яшчэ б захварэла. Узяў дзетак, вярнуліся мы дахаты.

У хаце — пуста неяк, быццам некага пахавайшы. Што рабіць, у галаве ўсё ідзе кругам. Навошта мне было туды ехаць? Чаго вочы не бачаць — жывот не баліць. А што цяпер? Я ж ёй сказаў, што падам на развод, а яна крычала: „Падавай, падавай, дам згоду адразу!” А што будзе з дзецьмі?! Ды і ці суд мне аддасць хоць адно дзіця...

Такія сумныя роздумы мучылі мяне цэлы тыдзень. А праз тыдзень вярнулася яна. Як бы нічога і не здарылася, вясёленькая, гаворыць са мною. А мне ж цэлы свет перавярнуўся дагары нагамі. Тое, што я так ахоўваў, нашыя пачуцці — спапяліліся. Божа, што рабіць? Як жыць?

Але не магу даравваць сабе аднаго. Што пасля гэтага ўсяго я яшчэ яе кахаю. Калі падышла да мяне і прытулілася, па мне прайшоў электрычны ток. Я адштурхнуў яе, але неўзабаве і так была між намі ўжо згода.

Божа, я ніколі не думаў, што буду такім паяцам... Робіць яна са мной, што толькі хоча. Ратуй, Сэрцайка!

**Андрэй**

Андрэй! Мушу цябе злаяць. Многія шлюбныя пары дамаўляюцца, што будуць верыць адзін другому ўсё жыццё. Ну і ... вераць. А ты што, убачыць хацеў? Ну, то і ўбачыў, чаго ж. З разводам не спяшайся, бо сапраўды можаш страціць не толькі жонку, але заадно і дзяцей. Мо тваёй жонцы ўсё гэта пройдзе. Молада — зелена!

А наогул дык кепскі з цябе псіхолаг. Калі б Сэрцайка было бабай, дык спрыяла б больш мужчынам якраз. Баба бабе — заўсёды вораг. Зайздрасць!

**Сэрцайка**